

# БАЙРАМ

Квартальнік Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь і Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль - Кітаб"

1999 ВЫПУСК 1

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

выпуск № 1(33)

КВАРТАЛЬНІК
МУСУЛЬМАНСКАГА
РЭЛІГІЙНАГА АБ'ЯДНАННЯ
Ў РЭСПУЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ
І БЕЛАРУСКАГА ЗГУРТАВАННЯ
ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН "АЛЬ-КІТАБ"

Мінск
1999

БАЙРАМ. ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ. / Квартальнік Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" і Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь, вып. № 1(33) - Мн., 1999, - 84 стар.

Квартальнік "Байрам" – друкаванае выданне Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб". Выходзіць з 1991 года. У ім змяшчаецца інфармацыя аб жыцці і дзейнасці мусульманскіх абшчын на Беларусі, аб асновах Іслама і правах мусульман, гісторыі беларускіх татар і важнейшых падзеях у мусульманскіх краінах. Выходзіць чатыры разы на год. Разлічана на мусульман Беларусі, навукоўцаў, усіх, хто цікавіцца гісторыяй, культурай, мусульманскай рэлігіяй беларускіх татар.

Адказны за выпуск **Ібрагім Канапацкі**

Рэдактары **Ісмаіл Александровіч, Разалія Александровіч, Яўген Гучок, Ібрагім Канапацкі, Дзмітры Чымбаевіч, Таццяна Якубоўская**

Набор **Дзмітры Чымбаевіч**

بسم الله الرحمن الرحيم

*У імя Аллага Міласцівага, Міласэрнага!*

*Дарагія браты-мусульмане і сёстры-мусульманкі!*
*Ассаляму алейкум ўа рахматул-лагі ўа баракятугу!*
*Мір Вам, міласць Аллага і Яго благаслаўленне!*

Час бяжыць няўмольна наперад, падзеі змяняюць адна другую, то сумныя, то больш-менш прыемныя, і нам ні ў якім разе нельга губляць у гэтым буйным жыццёвым моры ўзяты намі накірунак на сваё адраджэнне.

У студзені 1999 г. мы ўвайшлі з постам ў месяц Рамазан. У гэты час у нас прысутнічаў імам з Турцыі Рустэм КУРМАЧ, які, валодаючы рускай мовай, дапамагаў нам больш глыбока пазнаваць патрабаванні і законы Ісламa, рэлігійныя абрады і правілы. У месяцы Рамазан даволі шырока практыкаваліся іфтары (*разгаўленні пасля захаду сонца*). У некалькіх абшчынах былі праведзены малебны ў гонар Кадыр-*ночы (27-я ноч месяца Рамазана, калі найбольш верагодна пачалася перадача Кур'ана нашаму прароку Мухаммаду* (***мір яму і благаслаўленне Аллага!***) *праз анёла Джабраіла)*.

Пасля заканчэння посту 19 студзеня 1999 г. кіраўніцтва двух нашых аб'яднанняў удзельнічала сумесна з прадстаўнікамі турэцкай грамадскасці на прыёме ў пасольстве Турцыі ў Мінску. Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Турэцкай Рэспублікі ў Беларусі спадарыня Шуле СОЙСАЛ і прысутнічаўшыя на прыёме бізнесмены Турцыі мелі магчымасць больш дэталёва азнаёміцца са станам спраў па адраджэнню нацыі і рэлігіі, з нашымі праблемамі і задачамі, з планамі далейшага супрацоўніцтва паміж пасольствам Турцыі і двума нашымі аб'яднаннямі.

Даволі цікавай і ў перспектыве шматабяцаючай паказалася для кіраўніцтва нашых аб'яднанняў сустрэча з прыехаўшымі па запрашэнню Міністэрства Замежных Спраў Беларусі пятнаццацю Пасламі арабскіх краін, якія працуюць у Маскве.

Сустрэча адбылася 23 лютага г.г. Кожнаму паслу былі прапанаваны кароткія звесткі аб мусульманах Беларусі, аб стане нашага адраджэння, Зварот да ўсіх мусульман свету за дапамогай у гэтым адраджэнні. На сустрэчы прайшоў кароткі абмен думкамі наконт практычных крокаў на шляху сумесных дзеянняў па адраджэнню Іслама.

У русле інтэграцыйных працэсаў паміж Беларуссю і Расіяй прайшла сустрэча прадстаўнікоў татарскага аб'яднання "Аль-Кітаб" і Мусульманскага рэлігійнага, а таксама аб'яднання "Русь" з прыехаўшым на Беларусь міністрам па справах нацыянальнасцяў Расійскай Федэрацыі Рамазанам АБДУЛАТЫПАВЫМ, якая адбылася 2 сакавіка г.г.

У канцы квартала *(27.03.1999 г.)* мы адзначалі другое вялікае свята мусульман – Ід-аль-Адха (*Курбан-Байрам*), з выпадку чаго ва ўсіх мячэцях і ў арэндаваных памяшканнях прайшлі святочныя малебны. Адметнай з'явай менавіта гэтага свята быў каштоўны падарунак ад імя народа, бізнесменаў і Пасольства Турцыі ў выглядзе 14 быкоў, прызначаных у якасці ахвяр у імя Аллага, і перададзеных для размеркавання сярод мусульманскіх абшчын (*мяса курбанаў атрымалі мусульмане абшчын Навагрудка, Гродна, Скідэля, Ліды, Міра, Клецка, Ляхавіч, Слоніма, Глыбокага, Докшыц, Мядзела, Відзы, Узды, Смілавіч, Мінска*). Мы яшчэ раз хочам выказаць глыбокую ўдзячнасць усім спонсарам і ўдзельнікам гэтай высакароднай справы.

Мы спадзяемся, што і наступныя месяцы года будуць не менш насычаны змястоўнымі і карыснымі падзеямі для нашага адраджэнцкага руху, і таму ў сваіх малітвах звяртаемся да Вялікага Аллага дапамагчы нам у гэтым накірунку!

*Ассаляму алейкум уа рахматул-лагі уа баракятугу!*

**Рэдакцыя квартальніка "Байрам"**

*P.S. Пачынаючы з гэтага нумара квартальніка рэдакцыя лічыць, што будзе апраўданым выпускаць яго ад імя двух нашых аб'яднанняў – Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" і Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь, бо праблемы, інтарэсы і імкненні нашых аб'яднанняў непадзельныя, а змест нашых выданняў – і "Байрама" і газеты "Жизнь" – накіраваны на ўспрыняцце адны-мі і тымі ж людзьмі, татарамі-мусульманамі.*

## Сура адзінаццатая — Худ

**62 (59).** І вось адзіты адхілілі знак свайго Госпада і не паслухаліся Яго пасланцаў і пайшлі за прыказам усялякага тырана, упартага.

**63 (60).** І суправаджалі іх у гэтым свеце праклёнам і ў дзень уваскрошання. О так! Сапраўды, адзіты адхілілі свайго Госпада. О, ды згінуць адзіты, народ Худа!

**64 (61).** ... І да самудзянаў – брата іх Саліха. Ён сказаў: **"О народ мой! Пакланяйцеся Алаху; няма для вас ніякага бажаства, акрамя Яго. Ён вас узрасціў з зямлі і пасяліў вас на ёй. Прасіце ж у Яго прабачэння, потым звяртайцеся да Яго. Сапраўды, мой Гасподзь – блізкі і адказвае!"**

**65 (62).** Яны сказалі: **"О Саліх! На цябе мы некалі ўскладалі спадзяванні сярод нас. Няўжо ты будзеш утрымліваць нас ад пакланення таму, чаму пакланяліся нашы бацькі? Мы – у сумневу моцным аб тым, да чаго ты нас заклікаеш".**

**66 (63).** Ён сказаў: **"О народ мой! Ці думалі вы, калі я маю ясны знак ад Госпада майго і Ён дараваў мне міласць, дык хто ж дапаможа мне ад Аллаха, калі я Яго не паслухаюся? Вы павялічваеце для мяне толькі страту**

**67 (64). О народ мой! Гэта – вярблюдзіца Аллаха для вас знакам. Пакіньце ж яе есці на зямлі Аллаха; не дакранайцеся да яе са злом, каб не спасцігла вас блізкае пакаранне".**

**68 (65).** Але яе падрэзалі, і сказаў ён: **"Майце асалоду ў сваім жытле тры дні: гэта – абяцанак не ілжывы".**

**69 (66).** І калі прыйшоў Наш загад, Мы выратавалі Саліха і тых, каторыя паверылі разам з ім па літасці ад Нас, ад ганьбы таго дня. Сапраўды, твой Гасподзь моцны, магутны!

**70 (67).** І спасціг тых, каторыя былі несправядлівы, лямант, і раніцай былі яны ў сваім жытле і пападалі ніц,

**71 (68).** быццам бы і не жылі там. О так! Сапраўды, самудзяне адвергді свайго Госпада,– няхай згінуць самудзяне!

**72 (69).** І вось прыйшлі Нашы пасланцы да Ібрахіма з радаснай весткай, сказалі: **"Мір!"** І ён сказаў: **"Мір!"** – і не замарудзіў прыйсці са смажаным ягнём.

**73 (70).** А калі ён убачыў, што рукі іх не датыкаюцца да яго, ён іх не прызнаў і не адчуў да іх страху. Яны сказалі: **"Не бойся, мы пасланы да народа Лута".**

**74 (71).** А жонка яго стаяла і засмяялася; і Мы яе парадавалі весткай аб Ісхаку, і за Ісхакам – аб Якубу.

**75 (72).** Яна сказала: **"Гора мне! Няўжо я нараджу, калі я старая! І гэты гаспадар мой – стары. Сапраўды, гэта – справа дзіўная!"**

قَالَ يَٰقَوْمِ أَرَٰٓيْتُمُۥٓ إِن كُنتُ عَلَيٰ بَيِّنَةٖ مِّن رَّبِّے وَءَاتَيٰنِے مِنْهُ رَحْمَةٗ
فَمَنْ يَّنصُرُنِے مِنَ اَ۬للَّهِ إِنْ عَصَيْتُهُۥۖ فَمَا تَزِيدُونَنِے غَيْرَ تَخْسِيرٖۖ (62)
وَيَٰقَوْمِ هَٰذِهِۦ نَاقَةُ اُ۬للَّهِ لَكُمْ ءَايَةٗۖ فَذَرُوهَا تَأْكُلْ فِےٓ أَرْضِ اِ۬للَّهِ
وَلَا تَمَسُّوهَا بِسُوٓءٖ فَيَأْخُذَكُمْ عَذَابٞ قَرِيبٞۖ (63) فَعَقَرُوهَا
فَقَالَ تَمَتَّعُواْ فِے دَارِكُمْ ثَلَٰثَةَ أَيَّامٖۖ ذَٰلِكَ وَعْدٌ غَيْرُ مَكْذُوبٖۖ (64)
فَلَمَّا جَآءَ أَمْرُنَا نَجَّيْنَا صَٰلِحاٗ وَالذِينَ ءَامَنُواْ مَعَهُۥ بِرَحْمَةٖ مِّنَّا
وَمِنْ خِزْيِ يَوْمَئِذٍۖ إِنَّ رَبَّكَ هُوَ اَ۬لْقَوِيُّ اُ۬لْعَزِيزُۖ (65)
وَأَخَذَ اَ۬لذِينَ ظَلَمُواْ اُ۬لصَّيْحَةُ فَأَصْبَحُواْ فِے دِيَٰرِهِمْ
جَٰثِمِينَ (66) كَأَن لَّمْ يَغْنَوْاْ فِيهَآۖ أَلَآ إِنَّ ثَمُودَاْ كَفَرُواْ رَبَّهُمْۖ
أَلَا بُعْداٗ لِّثَمُودَۖ (67) وَلَقَدْ جَآءَتْ رُسُلُنَآ إِبْرَٰهِيمَ بِالْبُشْرَيٰ
قَالُواْ سَلَٰماٗۖ قَالَ سَلَٰمٞۖ فَمَا لَبِثَ أَن جَآءَ بِعِجْلٍ حَنِيذٖۖ (68)
فَلَمَّا رَءَآ أَيْدِيَهُمْ لَا تَصِلُ إِلَيْهِ نَكِرَهُمْ وَأَوْجَسَ
مِنْهُمْ خِيفَةٗۖ قَالُواْ لَا تَخَفْۖ إِنَّآ أُرْسِلْنَآ إِلَيٰ قَوْمِ
لُوطٖۖ (69) وَامْرَأَتُهُۥ قَآئِمَةٞ فَضَحِكَتْۖ فَبَشَّرْنَٰهَا
بِإِسْحَٰقَۖ وَمِنْ وَّرَآءِ إِسْحَٰقَ يَعْقُوبَۖ (70)

**76 (73).** Яны сказалі: **"Хіба ты дзівішся волі Аллаха? Літасць Аллаха і бласлаўленне Яго над вамі, жыхары дома. Ён – хвалімы, славуты!"**

**77 (74).** І калі страх пайшоў ад Ібрахіма і прыйшла да яго радасная вестка, ён пачаў спрачацца з Намі аб народзе Лута,– **(75).** сапраўды, Ібрахім – рахманы, роспачны, ператвораны!

**78 (76).** О, Ібрахім! Адвярніся ад гэтага, бо прыйшоў ужо загад твайго Госпада, і, сапраўды, прыйдзе да іх пакаранне немінучае.

**79 (77).** І калі з'явіліся Нашы пасланцы да Лута, засмучаны ён быў імі, і абмежавалася яго магутнасць, і сказаў: **"Гэта – дзень цяжкі".**

**80 (78).** І прыйшоў да яго ягоны народ, пасняхова імкнучыся; і раней яны тварылі зло. Сказаў ён: **"О народ мой! Вось мае дочкі, яны – чысцейшыя для вас. Пабойцеся ж Алаха і не рабіце ганьбы мне ў маіх гасцях. Хіба няма сярод вас чалавека прамога?"**

**81 (79).** Яны сказалі: **"Ты ведаеш, што ў нас няма патрэбы ў тваіх дочках, і ты ж ведаеш, чаго мы жадаем".**

**82 (80).** Ён сказаў: **"Калі б у мяне была сіла для вас ці я б выратаваўся ля магутнага апірышча!"**

**83 (81).** Яны сказалі: **"О Лут! Мы – пасланнікі Госпада твайго, ніколі яны да цябе не дойдуць. Адпраўся ж у дарогу з тваёй сям'ёй пасля часткі ночы, і няхай не абернецца з вас ніхто, апрача тваёй жонкі: сапраўды, яе спасцігне тое, што спасцігла іх. Назначаны тэрмін для іх – раніца; хіба раніца не блізка?"**

**84 (82).** І калі прыйшоў загад, Мы верх яго зрабілі нізам і пралілі на іх дажджом камяні з гліны шчыльнай, **(83).** мечаныя ў твайго Госпада. Не далёка гэта было ад несправядлівых!

**85 (84).** ... І да мадзіанітаў – брата іх Шуайба. Ён сказаў: **"О народ мой! Пакланяйцеся Алаху; няма ў вас бажаства, акрамя Яго. Не збаўляйце меры і вагі. Бачу я, што вы – у шчасці, і я баюся для вас пакарання дня ўсеабдымнага.**

**86 (85). О народ мой! Цалкам захоўвайце ў меры і вазе, не прыносьце людзям страты ні ў чым і не хадзіце па зямлі і не распаўсюджвайце бязбожжа.**

**87 (86). Рэштка ў Аллаха – лепш для вас, калі вы вернікі.**

**88. А я для вас не захавальнік".**

**89 (87).** Яны сказалі: **"О Шуайб! Няўжо твая малітва загадвае нам пакінуць тое, чаму пакланяліся бацькі нашы, ці ставіцца з нашай маёмасцю, як мы пажадаем? Ты ж стрыманы і вядзеш прама".**

**90 (88).** Ён сказаў: **"Народ мой! Ці памеркавалі вы, калі я маю ясны знак ад Госпада майго, і Ён ахвяраваў мне цудоўны лёс, і я не пажадаю не паслухацца вас у тым, што Ён вам забараніў... Я жадаю толькі выпраўлення, пакуль магу. Дапамога мая толькі ў Алаха; на Яго я пасладзяваўся і да Яго звяртаюся.**

**91 (89). О народ мой! Няхай раскол са мной не наклікае на вас граху, так што вас спасцігне падобнае да таго, што спасцігла народ Нуха, ці народ Худа, ці народ Саліха. І народ Лута ад вас не далёка.**

**92 (90). Прасіце прабачэння ў вашага Госпада, потым звярніцеся да Яго. Сапраўды, мой Гасподзь – і міласэрны, і любіць!"**

**93 (91).** Яны сказалі: **"О Шуайб! Не разумеем мы многае, што ты гаворыш; мы бачым, што ты слабы сярод нас. Калі б не твой род, мы пабілі б цябе каменнямі, бо ты для нас не дарагі".**

**94 (92).** Ён сказаў: **"О народ мой! Хіба мой род даражэйшы для вас, чым Аллах, і вы пакінулі яго ззаду сябе (у неахайнасці) за спіной. Сапраўды, Гасподзь мой абдымае тое, што вы творыце!**

**95 (93). О народ мой! Тварыце па сваёй мажлівасці; я таксама буду рабіць, і потым вы даведаецеся,**

**96. да каго прыйдзе пакаранне, што прынізіць яго, і хто – ілжэц. Цярпліва ж чакайце, я разам з вамі чакаю!"**

**97 (94).** І калі прыйшоў Наш загад, выратавалі Мы Шуайба і тых, хто паверыў разам з ім па Нашай літасці. А тых, каторыя былі несправядлівымі, спасціг лямант, і апынуліся яны раніцай у сваім жытле і ляжалі ніц,

**98 (95).** дакладна ніколі там і не жылі. О, няхай загінуць мадзіаніты, як далёкімі сталі і самудзяне!

**99 (96).** І паслалі Мы Мусу з Нашымі знакамі і відавочнай ўладаю **(97).** да Фіраўна з яго знаці. І пайшлі яны за загадам Фіраўна, але загад Фіраўна неправы.

**100 (98).** Ён прыйдзе на чале свайго народа ў дзень уваскрошання і адвядзе іх на вадапой да агню. Паскудны вадапой, да якога вядуць!

**101 (99).** І суправаджаюць іх тут пракляццем і ў дзень васкрошання. Паскудны дар, які даецца!

**102 (100).** Гэта – з вестак пра паселішчы, якія Мы табе расказваем. З іх адны стаяць, іншыя зжатыя.

**103 (101).** Мы іх не крыўдзілі, але яны самі сябе пакрыўдзілі, і ні ад чога не выратавалі іх багі іхнія, да якіх яны звярталіся апрача Аллаха, калі прыйшоў загад твайго Госпада. Яны толькі ўзмацнілі іх пагібель!

**104 (102).** Такая хватка твайго Госпада, калі Ён схапіў паселішчы, якія былі неправедныя. Сапраўды, хватка Яго страшэнная, моцная!

**105 (103).** Сапраўды, у гэтым – знак для тых, хто баяўся пакарання будучага жыцця. Гэта – дзень, для якога сабраны будуць людзі, і гэта – дзень, які ўбачаць!

**106 (104).** І Мы адтэрмінуем яго толькі на адлічаны тэрмін.

**107 (105).** У той дзень, калі ён надыйдзе, душа будзе гаварыць толькі з Яго дазволу; з іх будуць і няшчасны і шчаслівы.

**108 (106).** А тыя, каторыя няшчасныя,– у агні, для іх там – лямант і роў,–

**109 (107).** вечна знаходзячыся там,– пакуль цягнуцца нябёсы і зямля, калі толькі не пажадае твой Гасподзь,– бо твой Гасподзь – выканаўца таго, што Ён жадае!

**110 (108).** А тыя, каторыя дасягнулі шчасця,– у раі,– вечна знаходзячыся там, пакуль цягнуцца нябёсы і зямля, калі толькі твой Гасподзь не пажадае,– узнагародай не адсечанай.

**111 (109).** Не будзь жа ў хістанні адносна таго, чаму пакланяюцца гэтыя; пакланяюцца яны толькі так, як пакланяліся бацькі іх раней. І сапраўды, Мы цалкам адплацім іх лёс не адсечаным!

**112 (110).** Мусе Мы ахвяравалі пісанне, але сталі рознагалосіць аб ім. І калі б не слова, якое апярэдзіла ад Госпада твайго, паміж імі было б вырашана. А яны ж у сумненні рэзкім адносна гэтага.

**113 (111).** Сапраўды, усякаму цалкам адплоціць твой Гасподзь за іх справы: бо Ён дасведчаны ў тым, што яны твораць!

**114 (112).** Стой жа прама, як табе загадана, і тыя, хто звернецца з табой, і не выходзьце за межы,– бо Ён бачыць тое, што вы робіце!

**115 (113).** І не абапірайцеся на тых, каторыя несправядлівыя, каб да вас не дакрануўся агонь. І няма ў вас, апрача Аллаха, памочнікаў, і потым не будзеце вы абаронены!

**116 (114).** Выстойвай малітву ў абодвух канцах дня і ў *(блізкіх)* гадзінах ночы.Сапраўды, добрыя справы выдаляюць кепскія! Гэта – напамінак для тых, хто памятае.

**117 (115).** І цярпі, таму што Аллах не губіць узнагароды даброробячых!

**118 (116).** Чаму ж з пакаленняў да вас не было тых, што валодалі прысутным, што ўтрымлівалі ад паганства на зямлі, апрача нямногіх з ліку тых, каго Мы выратавалі? А тыя, каторыя былі несправядлівы, пайшлі следам за тым, чым яны былі адораны, і апынуліся яны грэшнымі.

**119 (117).** Гасподзь твой не быў такім, каб знішчыць паселішчы несправядліва, калі жыхары іх тварылі дабро.

**120 (118).** А калі б пажадаў твой Гасподзь, то Ён зрабіў бы людзей народам адзіным. А яны не перастаюць рознагалосіць, **(119).** апрача тых, над якім злітаваўся Гасподзь. Для гэтага Ён іх стварыў. І здзейснілася слова Госпада твайго: **"Напоўню Я геену духамі і людзьмі разам".**

**121 (120).** І ўсё расказваем Мы табе з вестак пра пасланнікаў, каб умацаваць табе тваё сэрца. І ў гэтым з'явілася да цябе ісціна, і пераконванне для вернікаў.

**122 (121).** Скажы тым, каторыя не вераць: **"Тварыце па сваёй мажлівасці, мы таксама дзейнічаем! (122). Чакайце, мы таксама чакаем!"**

**123 (123).** Аллаху належыць скрытае на нябёсах і на зямлі; да Яго звяртаецца ўвесь загад. Пакланяйся ж Яму і разлічвайце на Яго. Твой Гасподзь не будзе неахайным да таго, што вы творыце!



# СВЯТА Ў ГОНАР "СВЯТА"

***1991 год – год нараджэння адметнага, каларытнага і, пэўна, экзатычнага для нашага ўспрымання часопіса-квартальніка "Байрам. Татары на зямлі Беларусі". На сёння мы ўжо маем усе падставы для яго юбілею, бо якраз выйшла аж тры дзесяткі нумароў.***

З гэтай нагоды Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба КОЛАСА, Рэспубліканскі цэнтр нацыянальных культур, Мусульманскае рэлігійнае аб'яднанне ў Рэспубліцы Беларусь, Беларускае згуртаванне татар-мусульман "Аль-Кітаб" пры ўдзеле Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей РБ зрабілі свята для свайго "Свята", бо менавіта так перакладаецца з цюркскай мовы слова "Байрам".

З першага па 27 нумар галоўным рэдактарам – без аплаты, без кабінета, без штатных супрацоўнікаў – быў найвыдатны беларускі энцыклапедыст, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Якуб *(Якаў)* Адамавіч ЯКУБОЎСКІ, менавіта ў энцыклапедычнасці была і ўнікальнасць, і прыцягальнасць, і цікавасць, і павучальнасць "Байрама".

Прэзентацыя юбілейнага нумару была і прысвечана светлай памяці кіраўніка гэтага часопіса – Якуб Адамавіч у верасні мінулага года адышоў у лепшы свет. У праграме ўрачыстасцей была прэм'ера відэафільма "Мы з Паволжа і Крыма з Іманам прыйшлі..." (*узята назва яго з гімна беларускіх татар на словы Якуба Адамавіча і таленавітай маладой кампазітаркі з Ліды Дзінары Мазітавай. – М.М.)*, успаміны-гутаркі, прэзентацыя юбілейнага выдання "Байрама", выстава дакументаў і літаратуры з жыцця і дзейнасці ЯКУБОЎСКАГА, віктарына з прызамі і сувенірамі, салодкі стол.

На юбілейную ўрачыстасць і ўшанаванне памяці Якуба Адамавіча ЯКУБОЎСКАГА, на ўспаміны аб яго вялікіх унёсках у культуру беларускага і беларуска-татарскага народаў прыйшлі ганаровы грамадзянін Карэліччыны народны пісьменнік Беларусі Янка БРЫЛЬ, народны паэт Беларусі Ніл ГІЛЕВІЧ, паэты Мікола АЎРАМЧЫК, Яўген ГУЧОК, акадэмік Радзім ГАРЭЦКІ, галоўны рэдактар часопіса "Роднае слова" Міхась ШАВЫРКІН, вучоныя, супрацоўнікі з выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя", родныя Якуба Адамавіча, сябры па грамадскай дзейнасці, прыяцелі, знаёмыя, усе тыя, хто любіў, шанаваў, цаніў яго працалюбства і жыццялюбства. Кожны, хто жадаў, меў слова, і ўсе падкрэслівалі, што Якуб Адамавіч ЯКУБОЎСКІ – гэта гонар Беларусі, а яго дзецішча – "Байрам" – слава выдавецкай дзейнасці беларускіх татар.

Вялі вечарыну Ібрагім КАНАПАЦКІ і Разалія АЛЕКСАНДРОВІЧ, а першае слова мела дырэктар музея Я. КОЛАСА Зінаіда КАМАРОЎСКАЯ.

Ад імя беларускіх татар выступілі старшыня Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў РБ муфцій Ісмаіл АЛЕКСАНДРОВІЧ і прэзідэнт Беларускага згуртавання татар-мусульман "Аль-Кітаб" Абу-Бякір ШАБАНОВІЧ. Шмат дапамог у правядзенні гэтага мерапрыемства прэзідэнт Міжнароднага фонду духоўнага развіцця татар "Чышма" Іран БАГДАНАЎ.

Актыўны ўдзел у юбілейных урачыстасцях узяла Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Турцыі ў Беларусі пані СОЙСАЛ Шуле.

**М. МАЛІНОЎСКІ**
*(З газеты "Культура", 23–29 студзеня 1999 г.).*



# "ЯГО СЛОВА, ЯК І ПАМЯЦЬ АБ ІМ, ЖЫВЕ"

***"Сціпласць, дабрыня і прыгажосць яго былі неабсяжныя, спадчына – агромністая, вучняў – мноства..."***
*(З падслуханай размовы пра Сцяпана Александровіча).*

На 12 студзеня 1999 года запрасілі мяне на 30-ы выпуск "Байрама. Татары на зямлі Беларусі", трэцяя частка якога прысвечана Якубу ЯКУБОЎСКАМУ, які ў 1994 годзе сам знайшоў мяне, прыехаў і ціха пагрукаў у дзверы і "прымусіў" працаваць на справу ўдзячных беларускіх татараў. Тамака, у Літаратурным мемарыяльным музеі Якуба КОЛАСА адбыўся і мой выступ, і мая віктарына ў гонар памяці Якуба Адамавіча... Але сёння я раскажу пра спадчыну яшчэ аднаго знакамітага татарына, сына зямлі беларускай...

Напрыканцы лета 1975 года мяне накіравалі па службе з-пад Мінска ўглыб Расіі на яе граніцы, на яе самыя перадавыя рубяжы па абароне краіны ад тады надта агрэсіўнага Кітая. З сабою я ўзяў творы Максіма БАГДАНОВІЧА, Янкі КУПАЛЫ, Якуба КОЛАСА і ўразіўшую сваёй незвычайнай і ўзнёслай любоўю да маці-Радзімы Беларусі, да яе найлепшых сыноў кнігу Сцяпана Хусейнавіча АЛЕКСАНДРОВІЧА "Тут зямля такая..." *(Мінск, "Народная асвета", 1974)*. Гэта выданне так і прайшло са мною ўсе мае згрызоты і радасці на ваеннай службе ў Бураціі, Забайкаллі, Далёкім Усходзе, Паволжжы і вярнулася разам са мною ў Беларусь у 1988 годзе.

Кніга "Тут зямля такая..." для мяне была асаблівым талісманам, пуцяводнай зоркай незгасальнай і палымянай любові да зямлі бацькоў, да таго, як і чым жыў, любіў, працаваў і нёс свае перліны-здабыткі

народу, беларускі татарын, адзін з лепшых, яскравых і выдатных сыноў Бацькаўшчыны Сцяпан Хусейнавіч АЛЕКСАНДРОВІЧ.

Сёння можна смела сказаць, што пісьменніка, літаратуразнаўцу, краязнаўцу, педагога, доктара філалагічных навук, прафесара, заслужанага работніка культуры Сцяпана АЛЕКСАНДРОВІЧА любіла, любіць і заўсёды будзе любіць уся свядомая Беларусь.

Пасля смерці Сцяпана Хусейнавіча адбыліся два незабыўныя мерапрыемствы: гэта, напрыканцы 1991 года, у Доме літаратара 70-годдзе з дня яго народзінаў і навукова-практычная канферэнцыя, прысвечаная 75-м угодкам беларускага асветніка, якая адбылася 19 снежня 1996 года ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба КОЛАСА *(дырэктар Зінаіда Камароўская)*.

І вось напрыканцы года Дзяржаўны Камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба КОЛАСА, Рэспубліканскі Цэнтр нацыянальных культур, Беларускі рэспубліканскі фонд фундаментальных даследаванняў, Беларускае згуртаванне татараў-мусульман "Аль-Кітаб", Беларускае мусульманскае рэлігійнае аб'яднанне ў Рэспубліцы Беларусь зрабілі свой высакародны ўчынак – літаратурны помнік-уганараванне,– выдалі на цудоўнай паперы пад зялёнай вокладкай зборнік "Навукова-практычная канферэнцыя, прысвечаная 75-м угодкам Сцяпана Хусейнавіча АЛЕКСАНДРОВІЧА, беларускага пісьменніка, літаратуразнаўцы, доктара філалагічных навук, прафесара, заслужанага работніка культуры *(1921–1986)*. Снежань 1996. Матэрыялы канферэнцыі" *(Мінск, 1998)* на 152 старонках.

Што ёсць у кнізе? Партрэт і біяграфія С. АЛЕКСАНДРОВІЧА. "Уступнае слова" па даручэнні Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб" напісана вучоным, грамадскім і рэлігійным дзеячом Ібрагімам КАНАПАЦКІМ, ён жа, як і лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Якуб *(Якаў)* ЯКУБОЎСКІ, зрабілі беражлівую рэдакцыю ўсіх гэтых матэрыялаў, а іх зіхатлівых, цікавых, павучальных, пазнавальных больш за 20. Тут зварот ініцыятараў канферэнцыі, цудоўная падборка "Родныя мясціны Сцяпана АЛЕКСАНДРОВІЧА", унушальная бібліяграфія, любоўна і старанна створаная г. РЭЎТ, генеалагічнае дрэва роду АЛЕКСАНДРОВІЧАЎ.

Сярод аўтараў зборніка няма ніводнага выпадковага чалавека, усе яго моцна любілі, цанілі і знаходзіліся пад яго незвычайна магнетычным і цудадзейным уплывам – гэта народны пісьменнік Янка БРЫЛЬ, народны паэт Ніл ГІЛЕВІЧ, якія прысвяцілі яму свае матэрыялы "Вобраз і сімвал", "Яго слова, як і памяць аб ім, жыве".

Муфцій беларускіх мусульман І. АЛЕКСАНДРОВІЧ напісаў "Нашыя карані", аўтар гэтых радкоў свой матэрыял "Сцяпан Александровіч і Баранавічы" пачаў з эпіграфа К. ГЕЛЬВЕЦЫЯ "Людзі не нараджаюцца, а робяцца тымі, хто яны ёсць".

Журналістка І. КРЭНЬ змясціла "Сын двух брацкіх народаў", а Л. КАМАРОЎСКАЯ, старшы навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба КОЛАСА, дзе ў свой час працаваў Сцяпан Хусейнавіч,– "Праблемы гуманізму і маральнасці ў творах С. АЛЕКСАНДРОВІЧА "Далёкія зарніцы" і "На шырокі прастор".

Сярод аўтараў зборніка вучоныя Л. ЛЫЧ, А. ЛІС, А. ГРЫЦКЕВІЧ, А. КАЎКА *(Масква)*, Я. ЯНУШКЕВІЧ, Дз. БУГАЁЎ, Г. КІСЯЛЁЎ, Х. АЛЕКСАНДРОВІЧ, Э. ІОФЭ, І. ГЕРАСІМАВА, літаратары, пісьменнікі і паэты Я. КІММЕЛЬ, Я. ГУЧОК, М. АЎРАМЧЫК *(заслужаны дзеяч культуры Беларусі)*, У. СОДАЛЬ, даследчык Л. МІРАЧЫЦКІ.

Адзін з апошніх матэрыялаў – "Што застаецца ў маёй памяці пра 75-ыя ўгодкі нараджэння Сцяпана Александровіча" выдатнага энцыклапедыста, лаўрэата Дзяржпрэміі краіны, зараз нябожчыка, Я. ЯКУБОЎСКАГА.

Шчыра і дакладна можна сказаць, што матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі, выдадзеныя ўпершыню ў гонар Сцяпана АЛЕКСАНДРОВІЧА,– гэта здзяйсненне найвялікшай і найпачцівейшай любові ўсёй Беларусі да свайго слыннага сына – пісьменніка, педагога, працаўніка, заслужанага дзеяча культуры.

**М. МАЛІНОЎСКІ**
*(З газеты "Культура", 16–22 снежня 1999 г.).*



# ВЫЙШАЎ 30-ты НУМАР "БАЙРАМА"

12 студзеня 1999 г. у памяшканні музея імя Якуба КОЛАСА ў Менску адбылася ўрачыстая імпрэза з нагоды выхаду ў свет юбілейнага, трыццатага нумара квартальніка Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб".

На ёй прысутнічалі народныя пісьменнікі Беларусі Янка БРЫЛЬ і Ніл ГІЛЕВІЧ, турэцкі пасол, шмат вядомых дзеячоў беларускага і татарскага адраджэння. Была ўшанавана светлая памяць вядомага беларускага энцыклапедыста, першага рэдактара і заснавальніка квартальніка "Байрам" Якуба ЯКУБОЎСКАГА, сябра БСДГ і ТБМ.

Між іншым, у апошнім нумары "Байрама" змешчаны: спачуванне партыі БСДГ і слова ўшанавання памяці сп. ЯКУБОЎСКАГА, сказанае на мітынгу ТБМ 16 верасня ў Менску, надрукаваныя ў газеце "Наша слова" № 37 за 1998 г. і Беларуска-расейскі слоўнік татарскіх імёнаў, складзены Я.А. ЯКУБОЎСКІМ.

**Алег ТРУСАЎ**
*(З газеты "Наша слова", 10 лютага 1999 г.).*



# ПРАЗ ЧАС ПРАЦЯГЛАСЦЮ Ў АДЗІН НУМАР "БАЙРАМА"

12 студзеня 1999 г. у доме-музеі Якуба КОЛАСА ўшаноўвалася памяць галоўнага рэдактара квартальніка Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб", а таксама адзначалася выданне трыццатага нумара.

30-ты нумар "Байрама". Гэта – калі лічыць з самага пачатку. І першы. Першы, матэрыялы якога не кампанаваў, не вычытваў, якога не браў у рукі Якуб Адамавіч ЯКУБОЎСКІ. Але і гэты трыццаты нумар яго таму, што прысвечаны яго светлай памяці. Праз гэты нумар мы хацелі сказаць, што, можа яшчэ і не ў поўнай меры, але ўсё-такі ўсведамляем велічнасць той справы, якой займаўся Якуб Адамавіч, яе значнасць для татараў на Беларусі, а таксама яе лучнасць з агульнымі тэндэнцыямі нацыянальнага адраджэння беларускага грамадства.

Часам правядзення вечарыны стаў свяшчэнны для мусульман месяц Рамадан, месяц ачышчальнага паста, месяц, калі кожны асабліва імкнецца рабіць дабро. Дабром з'яўляецца і ўменне быць удзячным, успамінаць добрым словам іншых. А ўдзячны ўспамін аб Якубе Адамавічы жыве ў кожным сэрцы, якое здольнае на гэтыя пачуцці, гаспадар якога асабліва прыслухоўваецца да голасу свайго сэрца ў месяц Рамадан.

На вечарыну былі запрошаны тыя, хто ведаў Якуба Адамавіча доўгі час па працы ў Беларускай энцыклапедыі, хто супрацоўнічаў з "Байрамам". Былі і тыя, хто пажадаў ушанаваць памяць чалавека, з якім асабіста быў мала знаёмы, але справы якога ведаў і цаніў. Сям'і ЯКУБОЎСКІХ ён дарагі ў любых іпастасях, а мы кажам ім вялікі дзякуй за тое, што яны не толькі ведалі справы Якуба Адамавіча на карысць татарскага народа, але былі яму паплечнікамі ў гэтых справах. Найперш, жонка Таццяна Васільеўна, дачка Яўгенія, сын з імем старэйшага брата Якуба Адамавіча – Канстанцін, які датэрмінова і на выдатна здаў сесію ў Маскоўскім авіяцыйным інстытуце і прыехаў на вечарыну бацькі.

Калі аргкамітэт вызначаў колькасць запрошаных, то павінен быў улічваць абмежаванасць плошчы і тэхніку бяспекі, таму мы не здолелі запрасіць усіх тых, пра каго помнілі і каго жадалі запрасіць. Госці павінны былі прыйсці ў Коласаўскі дом а 12 гадзіне. А з раніцы пачалася страшэнная завіруха, стала холадна і ветрана, выпала шмат снегу. Магчыма і прырода была з намі ў вялікай скрусе. Але ж ці змогуць сабрацца разам тыя, каго мы так чакалі, бо большасць з іх ужо не маладога веку? І гэта, напэўна, не магчыма ўявіць нават і пры самых спрыяльных умовах, але гэта было так: прыйшлі ўсе, прыйшлі нават без спазнення.

І вечарына пачалася. Пачалася з традыцыйнага чытання Кур'ана. На гэты раз яго чытаў імам з Турцыі Рустам КУРМАЧ. А пасля загучала яшчэ адна малітва – "Малітва" Наталлі АРСЕНЬЕВАЙ. Усе ўсталі. Людзі стаялі плячо да пляча, локаць да локця. І гэта традыцыйнае слуханне стоячы гімна-малітвы, аб'ядноўваючага беларусаў ва ўсім свеце, пагадвала роўныя рады мусульман у час малення. Людзі аб'ядналіся ачышчальнай сілай святых слоў, аб'ядналіся сваёй павагай да таго, каго на жаль ужо не магло быць у гэтай зале. І калі нават у некаторых былі ачышчальныя слёзы на вачах, мы не сумавалі. Мы не сумавалі, бо мы ёсць, мы разам, мы ўмеем рабіць справы, мы ўмеем паважаць.

А зараз аб некаторых з тых, каго сабраў разам Якуб Адамавіч. Адкрылі вечарыну народныя паэты Беларусі Янка БРЫЛЬ і Ніл ГІЛЕВІЧ. Гэтыя мудрыя і таленавітыя людзі шчыра размаўлялі з намі аб балючым, выказалі свае трывогі, а Ніл ГІЛЕВІЧ, а пазней і прафесар Леанід ЛЫЧ, і некаторыя папрокі. Але мы ведаем, што добрая парада і падказка, нават калі яна і крышку саланавая – гэта давер і павага. Леанід ЛЫЧ падрыхтаваў грунтоўны даклад на матэрыялах часопіса "Байрам", перадаў яго для надрукавання, а сам выступіў як заўсёды з заварожваючай шчырасцю, разумна і прыгожа. Міхась МАЛІНОЎСКІ падрыхтаваў анкеты з пытаннямі аб жыцці і справах Якуба Адамавіча, у час адказаў на якую многія адкрылі для сябе шмат невядомага.

Нас віталі супрацоўнікі дзяржструктур: намеснік старшыні Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Іван ЯНОВІЧ, пасол Турцыі ў Беларусі пані Шуле СОЙСАЛ.

Як і ва ўсіх справах, насустрач якім ідзе калектыў супрацоўнікаў музея на чале з дырэктарам КАМАРОЎСКАЙ Зінаідай Мікалаеўнай, мы адчувалі шчырую падтрымку і дапамогу гэтых добразычлівых людзей як у час падрыхтоўкі, так і ў дзень 12 студзеня. На другім паверсе ў зале, дзе звычайна праводзяцца канферэнцыі, быў пастаўлены афармлены сям'ёй партрэт Якуба Адамавіча, прыгожа афармлены столік для вядучых, арганізавана рэгістрацыя прыйшоўшых з уручэннем юбілейнага нумара "Байрама", падрыхтавана праслухоўванне запісу размовы Ібрагіма КАНАПАЦКАГА з Ліліяй КОРШУН, вядучай радыёпраграмы "Супольнасць", якая выйшла ў эфір праз тыдзень пасля смерці Я.А. ЯКУБОЎСКАГА. Быў паказаны відэафільм "Мы з Іманам жывём на зямлі Беларусі", назва якога сыходзіць ад назвы гімна беларускіх татараў на словы Якуба ЯКУБОЎСКАГА. Гучаннем яго верша суправаджаюцца першыя кадры фільма, а ў канцы, у цітрах у чорнай рамачцы "Якуб ЯКУБОЎСКІ" – кансультант.

У гэты дзень былі задзейнічаны яшчэ 2 пакоі на першым паверсе. У адным была падрыхтавана выстава. Былі прадстаўлены ўсе нумары "Байрама", некаторыя нумары часопісаў "Жизнь", "Аль-Іслам", кнігі аб жыцці татараў Беларусі. На цэнтральнай сцяне

вісеў герб роду ЯКУБОЎСКІХ "Тапор", сцяг татараў Беларусі, да рэгістрацыі якога як афіцыйнай сімволікі нашага Згуртавання меў дачыненне Якуб Адамавіч. Асобна ў экспазіцыі быў афармлены верш Я. ЯКУБОЎСКАГА "Мы з Іманам жывём на зямлі Беларусі". Адкрываўся агляд выставы магнітафонным запісам гімна на гэтыя словы на музыку Дзінары МАЗІТАВАЙ.

У другой зале першага паверха быў накрыты памінальны стол, за які мы выказваем падзяку фундатарам: дырэктару юрыдычнага агенства "Цивилист" ТАІПАВУ Альберту Гайнанавічу, дырэктару беларуска-германскай фірмы "Гикет" ХАМДАМАВУ Эркану Дзільшодавічу і члену праўлення фонда духоўнага развіцця татараў "Чышма" ГАФІЯТУЛІНУ Ірэку Сунгатулавічу, а таксама муфтэяту Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь.

**Р. АЛЕКСАНДРОВІЧ**



# ЯКУБОЎСКІЯ ГЕРБУ "ТАПОР"

Першыя дакументальна зацверджаныя звесткі аб родзе ЯКУБОЎСКІХ адносяцца да другой паловы XVII стагоддзя. Ягоны прадстаўнік Абубякір Хазбеевіч ЯКУБОЎСКІ згодна прывілею караля і вялікага князя Яна-Казіміра ВАЗЫ атрымаў за паслугі ў вайне з украінскімі казакамі ва ўласнасць 15 валок пусташы ў вёсцы Каронагорцы Трокскага ваяводства і пажыццёва пасаду ротмістра татарскай казацкай харугвы гэтага ж ваяводства.[1]

Абубякір ЯКУБОЎСКІ меў двух сыноў – Адама і Давыда, якія сталі заснавальнікамі дзвюх галінаў гэтага роду. Згодна радаводным дакументам Адам меў чатырох сыноў: Багдана, Міхала, Халіля і Хасеня, Давыд жа аднаго – Усеня. З сыноў Адама нашчадкаўмужчын пакінулі Багдан *(сыны Адам, Мустафа і Шабан)* і Халіль – сыноў Рафала і Міхала. У чатырох сыноў Усеня – Багдана, Рамана, Давыда і Якуба – мужчынскае патомства было ў двух апошніх: ад Давыда – Адам-Ян, Мустафа-Раман і Хасень, ад Якуба – Давыд. Наступныя пакаленні гэтага роду з'яўляюцца нашчадкамі вышэй згаданых асоб. ЯКУБОЎСКІЯ канчаткова прызнаны ў шляхецтве пастановай Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу ў 1824 г. і зацверджаны дэпартаментам герольдыі Сената ў 1849 г. *(па іншым дакументам у 1841 г.)*.

---

[1] На жаль, з-за пашкоджанасці дакумента ў копіі, што прадстаўлена ў радаводнай справе, адсутнічае дата выдачы прывілею.

Прадстаўнікі розных пакаленняў ЯКУБОЎСКІХ неслі традыцыйную для татарска-беларускай шляхты вайсковую службу як у часы Рэчы Паспалітай, так і Расійскай імперыі. Так, Усень, унук Абубякіра і сын Давыда, з'яўляўся намеснікам троцкага татарскага харунжага. Захаваўся загад тагачаснага харунжага Мустафы ЮШЫНСКАГА ад 20 кастрычніка 1665 г. каб усё "таварыства", г.зн. асабовы склад харунжаства, далажыла ягонаму намесніку Усеню ЯКУБОЎСКАМУ аб гатоўнасці да паскоранага маршу на Гародню.

Паручнік "кавалерыі нарадовай" Адам ЯКУБОЎСКІ па прывілею караля Аўгуста III *(з Саксонскай дынастыі)* ад 13 лістапада 1754 г. атрымаў пры звальненні ў адстаўку чын ротмістра. Пры такіх жа абставінах атрымаў 13 чэрвеня 1786 г. званне паручніка згодна загаду гетмана войск Вялікага княства Літоўскага і віленскага ваяводы Міхала Казіміра АГІНСКАГА харунжы брыгады "кавалерыі нарадовай пяцігорскай" Самуэль ЯКУБОЎСКІ.

У Літоўска-татарскім конным і Конна-татарскім палках расійскай арміі служылі Абрагам ЯКУБОЎСКІ *(таварыш)*[1], Аляксандр ЯКУБОЎСКІ *(таварыш)*, Якуб ЯКУБОЎСКІ *(вахмістр)*.

У 10-х гадах цяперашняга стагоддзя на радзіме продкаў у Крыму жыў і працаваў у руска-татарскіх вучэльнях *(спачатку настаўнікам у Саках, а потым кіраўніком такой жа вучэльні ў Керчы)* Аляксандр ЯКУБОЎСКІ.



# ДЗЕЙНАСЦЬ ЯКУБА ЯКУБОЎСКАГА Ў ЛЮСТЭРКУ НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНАГА АДРАДЖЭННЯ ТАТАРАЎ БЕЛАРУСІ

Вырашэннем якіх бы актуальных і важных, вялікіх праблемаў ні займаўся той ці іншы народ, у яго здзяйсненнях заўсёды вельмі яскра вызначаецца адметная роля найбольш буйных асобаў. Гэтая роля падаецца яшчэ больш выразнай, калі размова датычыць невялікіх па колькасці народаў, нацыянальных меншасцяў. Да катэгорыі апошніх адносяцца і беларускія татары. Таму ва ўсім тым, што ім удалося дасягнуць, пачынаючы ад канца 80-х гадоў нашага стагоддзя, у нацыянальна-культурным адраджэнні постаць такога славутага змагара за гэтую святую, гістарычнай вартасці ідэю, як Якуб ЯКУБОЎСКІ ва ўсёй сваёй велічы добра бачыцца і ў бяззоркавую ноч і пры густым дзённым тумане. Ці размова заходзіць пра

[1] Таварыш – шэраговы шляхецкага паходжання ў войсках Рэчы Паспалітай.

ўтварэнне Беларускага згуртавання татараў-мусульманаў "Аль-Кітаб" і заснаванне іх друкаванага перыядычнага органа – штоквартальніка "Байрам. Татары на зямлі Беларусі", ці пра падрыхтоўку і правядзенне навукова-практычных канферэнцый па татарскай праблематыцы, закладку мусульманскай мячэці ў Мінску, арганізацыю нядзельных школ для татарскіх школ, ці пра ладаванне святочных мерапрыемстваў з нагоды 600-годдзя пасялення татараў-мусульманаў у Вялікім Княстве Літоўскім – усюды перад намі паўстае не цень, а фігура Якуба ЯКУБОЎСКАГА. Праўда, ён-то неяк умеў вельмі спрытна хаваць сябе ў цень і заставацца незаўважаным не толькі для староннягa вока, але і для блізкіх сяброў, з якімі нястомна працаваў на карысць татарскай справы. Шмат хто ведае, што Якуб ЯКУБОЎСКІ з'яўляўся нязменным галоўным рэдактарам 1–27-га нумароў часопіса "Байрам", але дзе, у якім з нумароў яго гэта пазначана? Не знойдзем такога. Больш таго, што ў шэрагу нумароў гэтага перыядычнага выдання мы не знаходзім імя Якуба ЯКУБОЎСКАГА нават сярод рэдактарскай групы. Не думаю, што такая канспірацыя выклікалася нейкімі надзвычай важнымі абставінамі. Відаць, з прычыны вялікай сціпласці, гэтак уласцівай дадзенаму чалавеку, ён проста сам не ўносіў свайго прозвішча ў склад рэдкалегіі, на што ніхто з яе сяброў не звяртаў на гэта асаблівай увагі, паколькі не сумняваўся ў прыналежнасці яму галоўнай ролі ў выхадзе кожнага нумара "Байрама". Але ці ўсе з чытачоў ведалі пра гэта, беручы ў рукі часопіс? Несумненна, не ведалі. Гэтага не будуць ведаць і з гадамі, што не дасць магчымасці скласці правільнае ўяўленне пра ўклад Якуба ЯКУБОЎСКАГА ў станаўленне і развіццё татарскай перыёдыкі на Беларусі. Незалежна ад таго, па чыёй віне мы не бачым імя гэтага выдатнага чалавека там, дзе яно павінна прысутнічаць, падобная з'ява не мае ніякага права для апраўдання. Народ павінен ведаць сваіх герояў, а тым больш такая невялікая па колькасці этнічная супольнасць, якой з'яўляюцца беларускія татары.

Добра ведаючы, што на працягу выдання ўсіх 27-мі нумароў штоквартальніка "Байрам" яго галоўным дойлідам быў Я. ЯКУБОЎСКІ, сцверджу, што з гэтай нялёгкай, вельмі адказнай функцыяй ён спраўляўся на выдатна з плюсам. Паводле раздзелаў часопіс вельмі арыгінальны, мала ў чым падобны на іншыя такога роду перыядычныя выданні. У ім абавязкова знойдзеш штосьці важнае, асабліва для мусульман, з іх Кур'ана, карысныя ўрыўкі з іншых кніг рэлігійнага зместу. З цікавасцю чытаецца даведачны матэрыял з задуманага да выдання "Энцыклапедычнага даведніка". І зусім апраўдана, што з першага і да апошняга нумароў "Байрама" ён прыстойна спраўляўся з функцыяй быць генератарам гістарычнай памяці беларускіх татараў. Кожны, хто знайшоў бы вольны час і ўважліва прачытаў усе гістарычныя артыкулы "Байрама", даволі дакладна ведаў бы гісторыю беларускіх татараў. Веды пра іх дапаўняюцца

яшчэ і тым, што рэдакцыя часопіса ахвотна дае магчымасць выступіць на яго старонках аўтарам і па тых праблемах гісторыі Беларусі ўвогуле, без раскрыцця якіх немагчыма было б стварыць больш-менш поўны малюнак і па гісторыі яе татараў. Такой практыкі, якую гэтак актыўна ініцыяваў галоўны рэдактар часопіса "Байрам" Я. ЯКУБОЎСКІ варта прытрымлівацца і надалей, бо карысць ад яе відавочная. За надзвычай станоўчае і нават фенаменальнае трэба прызнаць, што за 600-гадовае жыццё татараў на Беларусі яны не зрабіліся абыякавымі да таго, што адбывалася на працягу гэтага перыяду на іх прарадзіме. Улічваючы такое, рэдакцыя часопіса "Байрам" вельмі правільна паступае, што не застаецца ў даўгу перад сваімі чытачамі, што не страцілі такога святога пачуцця. Ім дадзена столькі гістарычнага матэрыялу пра паволжскіх і крымскіх татараў, што яго хапіла б пры адпаведнай апрацоўцы на дзесяткі курсавых і дыпломных прац, што выконваюцца студэнтамі вышэйшых навучальных устаноў. Знаёмства з такім матэрыялам не толькі ўзбагачае гістарычную памяць беларускіх татараў, але і дае магчымасць лепш зразумець сваю прыналежнасць да шматмільённай татарскай супольнасці свету. Лічу, што і надалей такія матэрыялы павінны займаць належнае месца на старонках штоквартальніка "Байрам".

Цалкам апраўдана змяшчэнне з нумара ў нумар у гэтым часопісе крымскататарска-беларускага слоўніка. Знаёмячыся з яго паасобнымі словамі, адразу адчуваеш прыгажосць, самабытнасць крымскататарскай мовы. Не перабольшу, калі скажу, што выпускам крымскататарска-беларускага слоўніка будзе ўнесены каштоўны ўклад у цюркскае і беларускае мовазнаўства. Гэтага ўкладу проста нельга будзе не заўважыць Істытуту мовазнаўства Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь.

Ёсць у часопіса "Байрам" і шмат іншых станоўчых бакоў, за што трэба дзякаваць найперш яго галоўнаму рэдактару. Сваім укладам у жыццё гэтага цікавага перыядычнага выдання яго першая асоба заслугоўвае права на неўміручасць у памяці беларускіх татараў. Таму мяне нямала здзівіла афіцыйная інфармацыя на старонцы трэцяга нумара часопіса "Байрам" за 1998 г. Там змешчаны загад аб узнагароджанні Ганаровай граматай Дзяржкамітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцяў Рэспублікі Беларусь асобаў, якія маюць значныя дасягненні ў справе татарскага адраджэння. Такіх асобаў *(агульнай колькасцю 4 чалавекі)* вызначыла Праўленне Беларускага аб'яднання татараў-мусульманаў "Аль-Кітаб". У дачыненні да кожнага з усіх чатырох пералічаных асобаў не можа быць аніякіх пярэчанняў. Толькі губляешся ў здагадках, а чаму ў спісе на ўзнагароду Ганаровай граматай адсутнічае Якуб ЯКУБОЎСКІ? Тады і колькасць узнагароджаных была б не чатыры, а пяць. Апошняя ж лічба куды больш прывабная за першую.

Не толькі сівая мінуўшча, але і сучаснасць даюць нам безліч

прыкладаў цеснага сужыцця беларусаў з татарамі. Таму, каб гаварыць, аналізаваць праблемы, што стаяць перад беларускімі татарамі на рубяжы XX і XXI стагоддзяў, другога і трэцяга тысячагоддзяў, трэба хоць у самых агульных рысах сказаць пра такога роду беларускія праблемы.

На вялікі здзіў, беларусы, доўгі час *(з 1 студзеня 1919 г.)* жывучы ва ўласнай дзяржаве – Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы *(БССР)* – дзесьці праз 20–30 гадоў ужо ўшчыльную сутыкнуліся з праблемай захавання сябе як самабытнага этнасу. Цяпер нам добра зразумелыя прычыны такой трагедыі: БССР не была як след беларускай дзяржавай; КПСС у дачыненні да яе, як і да іншых саюзных рэспублік, праводзіла русіфікатарскую палітыку. І як вынік, беларусы, будучы за ўсе нацыі і народнасці СССР найбольш блізкімі да рускіх па культуры і мове, асімілёўваліся самымі паскоранымі тэмпамі. Прыпыніць размах асіміляцыйных працэсаў, але не цалкам зліквідаваць іх, дапамагла абвешчаная генеральным сакратаром ЦК КПСС Міхаілам ГАРБАЧОВЫМ перабудова. Усё, што на гэты час засталося здаровым, прыродна чыстым, не засмечаным у зношаным беларускім арганізме, прыйшло ў рух. На паверхню ўсплыло і вельмі хутка набыло шырокую папулярнасць у народзе даўно забытае слова Адраджэнне.

Зусім заканамерна, што разам з нацыянальным рухам тытульнага народа Беларусі, адбылося абуджэнне ўсіх яе этнічных супольнасцяў, у тым ліку і адной з самых старажытных на нашай зямлі – татарскай. Прычым усе гэтыя супольнасці сталі ратавацца не ад нацыянальнага ўціску тытульнага народа, як гэта практычна бывае ва ўсіх поліэтнічных дзяржавах, а ад русіфікацыі. Вось у такім гуртавым змаганні і адбывалася яднанне ўсіх нацыянальных рухаў на Беларусі, асяродкам якой стаў нацыянальны рух яе карэннага насельніцтва. Па гэтай прычыне актывісты беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння не толькі не перашкаджалі, а, наадварот, усяляк садзейнічалі прыходу ў такі прагрэсіўны рух усіх этнічных супольнасцяў нашага краю. У належнай меры адчулі на сабе гэта і беларускія татары, што толькі спрыяла актывізацыі іх удзелу ў нацыянальна-культурным адраджэнні.

Як і прынята ва ўсіх падобных выпадках, беларускія татары пачалі з самаарганізацыі: стварылі ў 1991 г. Беларускае згуртаванне татараў-мусульман "Аль-Кітаб", і ў гэтым жа годзе заснавалі свой перыядычны орган – штоквартальнік "Байрам", абсалютная большасць матэрыялаў якога публікуецца на беларускай мове. Толькі вось вялікая недарэчнасць, што ўсе гэтыя лёсавызначальныя ў жыцці нашых татараў з'явы не знайшлі ніякага адлюстравання ў "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі". Відаць, не дагледзелі ні беларусы, ні татары. Гэтую памылку трэба абавязкова выправіць у адпаведным томе "ЭГБ" на літару "Т", унёсшы дэфініцыю "татары беларускія", у якой разам з іншымі пытаннямі асвятліць і іх сучаснае

нацыянальна-культурнае становішча.

Хапіла ў нашых татараў сілы і магчымасцяў, каб разам з беларускімі навукоўцамі і культурнымі дзеячамі правесці ўжо ў 1993 г. вельмі шматзначную навукова-практычную канферэнцыю на тэму "Татары-мусульмане на землях Беларусі, Літвы і Польшчы". Падобнага роду канферэнцыі адбываліся і пазней. Апошняя з іх у сакавіку 1997 г. – "Праблемы вывучэння і захавання культурнай спадчыны татарскага народа на Беларусі".

Такой актывізацыяй нацыянальнага жыцця татары вельмі прыстойна сустрэлі і адзначылі ў лістападзе 1997 г. 600-годдзе свайго з'яўлення на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага, законным спадкаемцам якога ёсць сучасная наша дзяржава – Рэспубліка Беларусь. Маюцца пэўныя пазітыўныя зрухі ў арганізацыі мусульманскіх школ для навучання беларускіх татараў, для працы ў якіх запрашаюцца і студэнты-арабы, што вучацца ў ВНУ нашай краіны. Унікальнай з'явай стане выданне "Энцыклапедыі для беларускіх татараў", над падрыхтоўкай якой працуюць многія навукоўцы краіны, незалежна ад іх нацыянальнага паходжання. Тэрміны, якія ўвойдуць у энцыклапедычны даведнік, рэгулярна падаюцца ў часопісе "Байрам" і гэта вельмі правільна, бо з'яўляецца магчымасць з дапамогай чытачоў штосьці змяніць, падкарэкціраваць, унесці нейкую новую дэфініцыю. З цягам часу, як вызначыцца рэдакцыя "Энцыклапедыі для беларускіх татараў", ёй дарэчы было б прысвоіць імя Якуба ЯКУБОЎСКАГА, бо акурат яму належыць задума ў складанні такой кнігі.

Тое, што распачалі з належным размахам татары Беларусі на рубяжы 80–90-х гадоў не магло не быць заўважаным іх супляменнікамі з іншых рэспублік, а пазней і з краін СНД. Большасць з глыбокім паразуменнем паставілася да такіх звестак і пачала падтрымліваць гэты рух і словам, і справай. Але выказваліся і паражэнчыя настроі. І тут няма нічога дзіўнага, бо працэсы дэнацыяналізацыі гэтай этнічнай супольнасці дайшлі да самай крытычнай адзнакі. Таму я вельмі высока стаўлю, што настойлівыя пошукі шляхоў нацыянальна-духоўнага адраджэння беларускімі татарамі ніколькі не аслабляліся ад таго, што хтосьці з іх аднаверцаў і блізкіх па крыві прадказваў, што гэтаму адраджэнню нібыта ніяк не удасца здзейсніцца, бо не той час, ні тыя ўмовы. На чыім баку праўда, пакажа час. Лічу, калі разумна выкарыстаць усе найбольш істотныя фактары адраджэння, яно зусім небесперспектыўнае. Галоўнае, што ў яго яшчэ ёсць і людскія рэзервы. Патрэбна мэтанакіраваная, глыбокаасэнсаваная растлумачальная праца ў асяроддзі татарскага насельніцтва Беларусі незалежна ад таго, іх карані ўходзяць у вобласці Крыма, Паволжа ці ў якія-небудзь іншыя тэрыторыі – расялення гэтых шматлікіх , але блізкіх паміж сабою адгалінаванняў дадзенай этнічнай супольнасці мусульманскіх народаў. Пры правядзенні растлумачальнай працы асаблівую ўвагу трэ-

А яшчэ я недзе чытаў параду для пісьменнікаў, што калі можаш не пісаць, то не пішы. Ну а калі словы самі ірвуцца з душы, то пішы.

Прывітанне Вам ад Таццяны, ад Ібрагіма і яго сям'і.

А можа Вы былі апошнім, каму спавядаўся Іверс? Занатуйце ўсё дакладна, што і як ён Вам казаў.

*(дапіска на 1 старонцы).*

А можа гэта не пра яго?

Неяк лямантавала АЙЗЕНШТАТ, што прыніжаюць яўрэяў. ГУЧОК даў ей адказ і назваў кнігу. Пра артылерыста, яўрэя па паходжанні, напісана ў Беларусі кніга.

18 сакавіка – Дзень Парыжскай Камуны.

**Якуб Якубоўскі.**



Добры дзень, дарагі Міхась!

Атрымаў Ваш даклад на канферэнцыі. Ухваляю. Крыху толькі трэба зняць вастрыню ў адносінах да яўрэяў, бо будзе няёмка перад тымі яўрэямі, якія прымаюць удзел у гэтай нарадзе. Проста трэба будзе замяніць слова яўрэй словам карчмар.

Я перадрукую артыкул і сям-там здыму вастрыню, а затым дашлю Вам, ці лепш прывязу ў сярэдзіне мая.

Учора мне патэлефанавалі, каб я ў "Гаспадыні" забраў для Вас ганарар – 112500 рублей. Лідзія Іванаўна мне перадала сёння, у пятніцу, у $9^{\underline{00}}$ грошы і запіску. **"Шкада,** – сказала яна, **– плаціць поўшце за перасылку грошыкі, да яшчэ за кошт аўтара".**

З аказіяй у Баранавічы паедзе мой добры сябар ЮШКЕВІЧ Вячаслаў Антонавіч, з Нясвіжа, палкоўнік, супрацоўнік энцыклапедыі. Вельмі добры чалавек.

Прывітанне Вам ад Таццяны, маёй жонкі. Запрашаем Вас у госці. Тэлефон 633-789, пазваніце, сустрэну.

Віншую Вас з Вялікаднем, Першамаем, Перамогай, Днём друку і радыё, Днём нараджэння ні то МАРКСА, ні то ЭНГЕЛЬСА, з цудоўнымі днямі і майскімі начамі.

**Якуб Якубоўскі.**



Добры дзень, дарагі Міхась!

Даўно атрымаў ад Вас ліст, меў час, каб напісаць Вам у адказ, але вельмі трывожна было на душы. За што ні возьмешся – усё не так. І машынка сапсавалася, і "Байрам" не робіцца, як у таго ВЫСОЦКАГА: "Крокодил не ловится, не растёт кокос". Амаль усе артыкулы прыйшлося друкаваць двойчы і тройчы. Днямі выслаў у "Наш край" артыкульчык пра Вас. Напісалася не так, як трэба было б, але лепш не мог. У "Байраме" № 2 пра Вас будзе артыкул,

але там больш з ухілам да таго, чаму Вы так спадабаліся татарам.

Сёння, нарэшце, сустрэў сына. Здаў іспыты на выдатна. Не пісаў і не званіў. Як мог, суцяшаў Таццяну, хоць у самога на душы было моташна.

Прайшла перарэгістрацыю наша грамадская арганізацыя, зацвердзілі і выдалі пасведчанне, што наш сцяг – бела-чырвона-белы, а на чырвонай паласе паўмесяц і зорка. Паспрабуем знайсці спонсараў, каб зрабілі для нас значок. Мяркую, што будзе зялёная, мусульманскага колеру паласа з надпісам па-арабску Аллаг акбар. Ніжэй – наш сцяг бел-чырвона-белы з паўмесяцам і зоркай. Памеры 3х3 см. Можа нехта прапануе іншае.

Збіраю энцыклапедычныя артыкулы для "Байрама" № 3. Сярод іншых павінны быць такія, як ГАРДЫНЯ *(фанабэрыстасць)*, ПРАВЫ АСОБЫ, ПРАВЫ КАЛЕКТЫВА, АХОВА ПРЫРОДЫ *("правы" раслін, жывёл, нежывой прыроды)*. Гэтыя артыкулы будуць пададзены з мусульманскіх пазіцый. Там дастаткова, але больш чым 25 артыкулаў мы не можам у адным нумары друкаваць, каб не ператварыць квартальнік у сухі даведнік.

У кожным нумары "Байрама" будзем друкаваць па 5 артыкулаў з матэрыялаў Другой канферэнцыі. Калі Вы не будзеце супроць, то і Ваш даклад надрукуем.

Мяркуецца, што ў энцыклапедычным даведніку "Татары Беларусі, Літвы і Польшчы" будуць артыкулы пра народы, сярод якіх жывуць нашы татары – пра беларусаў, пра палякаў, пра летувісаў. У старапольскай энцыклапедыі я знайшоў вельмі добры і цікавы артыкул пра палякаў. Застаецца дадаць толькі прозвішчы 100 найбольш славутых палякаў *(тое ж будзе некалі і пра беларусаў і пра летувісаў)*, бо татарын павінен хоць бы 100 самых славутых прадстаўнікоў гэтых народаў – нашых апекуноў, ведаць. Затым яшчэ трэба напісаць на 50 радкоў інфармацыю пра тое, як палякі *(і іншыя)* ставяцца да татараў. Пасля таго, як давядзем артыкул да ладу, перш чым яго друкаваць, прапануем напісаць лятувісам пра сваіх лятувісаў. Яны, вядома, выкарыстаюць падыход да справы палякаў пра палякаў, але прапануюць нешта сваё, што ўзбагаціць методыку і метадалогію, а ўжо затым перайдзем да беларусаў. Іх вопыт будзе для нас вырашальным і мы артыкул БЕЛАРУСЫ надрукуем у "Байраме", каб пасля ўжо даць палякаў, літоўцаў, рускіх. Будуць, вядома, артыкулы і пра яўрэяў і цыганоў, але памеры такіх артыкулаў будуць карацейшымі. А каб пазбегнуць папрокаў, што мы не падыходзім суб'ектыўна, аўтарамі будуць людзі з тых народаў, пра якіх друкуе "Байрам".

Вядома, гэта ўсё дробязі, якімі і можа займацца стары чалавек. Прывітанне Вам ад маёй жонкі і сына.

Тройчы дзед Савецкага Саюза
**Якуб Якубоўскі.**

Прывітанне ад мяне паэтцы пані ЛАПКОЎСКАЙ, яе мужу, музыкам Баранавічаў і ўсім Вашым сябрам.

Кнігу пра Міхала ЛІЦВІНА калі-небудзь з аказіяй перашлеце мне, гэта не такая штодзённа патрэбная мне кніга, бо яна ёсць і ў Ібрагіма КАНАПАЦКАГА.

Прывітанне Вам ад ЛЯЎКОВА.



3-ці экземпляр

## ДАСЛЕДЧЫК І ЖУРНАЛІСТ

Вядомаму на Беларусі журналісту ў ліпені гэтага года споўніцца пяцьдзесят. Нарадзіўся Міхась Міхайлавіч 25 ліпеня 1945 года ў вёсцы Угрынь Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці, хутар Ровеста. Выхоўваўся і вучыўся ў дзіцячым доме № 2 у Парэччах, пазней у Ашмянскай школе-інтэрнаце. Затым была тэрміновая служба ў войску, здача экзаменаў экстэрнам за вайсковае вучылішча і завочная вучоба ў вышэйшым афіцэрскім вучылішчы і шматгадовая афіцэрская служба, пакуль у 1991 г. не атабарыўся стала ў Баранавічах. Прыйшлося служыць у Забайкаллі, на Далёкім Усходзе, у Прыураллі і на зямлі роднай Беларусі.

У 1976 г. Міхась быў прыняты ў Саюз журналістаў СССР, надрукаваў больш за 1000 матэрыялаў, у тым ліку ў такіх аўтарытэтных, як часопіс "Наука и жизнь", у цэнтральных газетах, у беларускіх навуковых, навукова-папулярных, прыродазнаўчых часопісах.

Будучы на службе ў Кяхце, у Бурацыі, Міхась з вялікай цікавасцю вывучаў гісторыю і прыроду гэтага горада, сваімі даследчыцкімі адкрыццямі дзяліўся з сябрамі, падначаленымі *(бывае так, што вернецца са службы салдат і нічога не можа расказаць пра мясціны, дзе правёў лепшыя гады маладосці)*, друкаваў нарысы ў часопісах і газетах. Кагорта географаў прыняла яго ў свае шэрагі як сапраўднага члена Геаграфічнага таварыства СССР, бо даследчыцкая праца Міхася была на навуковым узроўні не ніжэй за дыпломную работу выпускніка геаграфічнага факультэта. А патрабаванні да сапраўднага члена Геаграфічнага таварыства там сапраўды сур'ёзныя: да рэвалюцыі гэта таварыства ўзначальваў сам цар, а практычна кіраваў славуты вучоны, акадэмік П.П. СЯМЁНАЎ-ЦЯН-ШАНСКІ.

Найбольш зрабіў Міхась для вывучэння таго, што зрабілі славутыя сыны беларускага народа, якіх, на вялікі жаль, "расцягалі і прыўласцілі" сабе палякі і рускія. Бо калі чалавек быў католік, то лічылі яго палякам, а калі вылучыўся праваслаўны, то лічылі яго рускім. Цяжка ўявіць сабе, каб венгра-лютэраніна лічылі б немцам, а венгра-католіка – італьянцам. А ў нас атрымліваецца так, што

беларусаў няма. Вось М.М. МАЛІНОЎСКІ палымяным словам і вялікім навуковым досведам і даводзіць чытачам, дзе шчырая праўда. І не лёгка знайсці нешта невядомае пра вядомага, таксама як вядомае пра яшчэ невядомага. Каб сабраць усё разам, што надрукаваў Міхась пра славутых беларусаў, то атрымалася б добрая кніга.

Але як сапраўдны даследчык М. МАЛІНОЎСКІ піша не толькі тое, што прыемна выдаўцам. Нярэдка ён даводзіць, што селянін і каваль у сапраўднасці не быў паэтам, а кампазітар-пан быў жорсткім прыгоннікам. Вось не ўсім выдаўцам падабаецца тое, што Міхась называе прыхаванае імя, прыхаваную нацыянальнасць рэвалюцыянера ці паэта, хоць гэта і адмоўна адбіваецца на адносінах з рэдактарамі часопісаў і газет, але як казалі старажытныя, што сяброўства дарага, а праўда яшчэ лепшы сябар.

Варта адзначыць, што Міхась Міхайлавіч, як добры беларус, прыязна ставіцца да ўсіх людзей, якія жывуць і працуюць сумленна і шчыра на карысць сваёй Бацькаўшчыны, абы яны людзі былі добрыя. Свой даследчыцкі, журналісцкі і арганізатарскі талент ён прыклаў няраз і да таго, каб расказаць пра цыганаў, габрэяў і татараў, якія здаўна жывуць у гэтых мясцінах.

Разам з працаўнікамі культуры, разам з літаратарамі і музыкамі ён праводзіць вечарыны, на якіх беларусы могуць пазнаёміцца з жыццём і культурай суайчыннікаў – даўніх пасяленцаў з экзатычных краін Блізкага Усходу, Індастана, Паволжа і Таўрыі.

Спадзяёмся, што поўны творчых сіл і цікавых задумак Міхась Міхайлавіч МАЛІНОЎСКІ парадуе чытачоў газеты "Наш край", чытачоў "Народнай газеты", часопіса "Гаспадыня", "Беларуская думка", "Роднае слова", "Байрам" і іншых сваімі па-мастакоўску зробленымі цікавымі і навуковымі публікацыямі.

220086, Беларусь, г. Мінск, вул. Славінскага, д. 21, кв. 8.
**ЯКУБОЎСКІ Якаў Адамавіч**.

<u>Подпіс.</u>

Вельмі паважаны рэдактар! Прашу Вас неяк адзначыць 50-годдзе актыўнага аўтара газеты "Наш край", бо пісаць пра добрага жывога чалавека больш прыемна, чым пісаць некралогі.

1.07. 1995 г.



# БЕЛАРУСКА-РУСКІ СЛОЎНІК ТАТАРСКІХ ІМЁНАЎ

*(працяг, пачатак у № 1, 2, 3, 4 – 1998 г.)*

## Жаночыя імёны

| На беларускай мове | На рускай мове |
|---|---|
| **Н** | |
| Набіра | Набира |
| Навалія | Навалия |
| Наджыба | Наджиба |
| Надзіра | Надира |
| Надзія | Надия |
| Назджамал | Назджамал |
| Назіма | Назима |
| Наіма | Наима |
| Наіра | Наира |
| Налія | Налия |
| Нардана | Нардана |
| Наркіза | Наркиза |
| Нарыма | Нарима |
| Насіма | Насима |
| Нафіза | Нафиза |
| Нафіса | Нафиса |
| Нізамія | Низамия |
| Ніля | Ниля |
| Нурзія | Нурзия |
| Нурсаліма | Нурсалима |
| Нурсанія | Нурсания |
| Нурсара | Нурсара |
| Нурсафа | Нурсафа |
| Нурфанія | Нурфания |
| **П** | |
| Пакіза | Пакиза |
| Парвіза | Парвиза |
| **Р** | |
| Равіда | Равида |
| Радыя | Радия |
| Разаліна | Разалина |
| Разалія | Розалия |
| Разія | Разия |
| Раіля | Раиля |
| Раіна | Раина |
| Раіса | Раиса |

| На беларускай мове | На рускай мове |
|---|---|
| | |
| Раіха | Раиха |
| Райхана | Райхана |
| Ранія | Рания |
| Расіма | Расима |
| Рафіка | Рафика |
| Рафіля | Рафиля |
| Рафіса | Рафиса |
| Рафія | Рафия |
| Рахіма | Рахима |
| Рашыда | Рашида |
| Рубіна | Рубина |
| Руза | Руза |
| Рузіна | Рузина |
| Рузія | Рузия |
| Рукія | Рукия |
| Руфіна | Руфина |
| Руфія | Руфия |
| Рэгіна | Регина |
| **С** | |
| Сабіра | Сабира |
| Сабіха | Сабиха |
| Садыка | Садыка |
| Саіда | Саида |
| Саліма | Салима |
| Саліха | Салиха |
| Салма | Салма |
| Самара | Самара |
| Самарыя | Самария |
| Саміра | Самира |
| Самія | Самия |
| Сандугач | Сандугач |
| Санія | Сания |
| Сара | Сара |
| Сарыма | Сарима |
| Саўда | Сауда |
| Сафанур | Сафанур |

| На беларускай мове | На рускай мове |
|---|---|
| Сафарыя | Сафария |
| Сафія | Сафия |
| Сахарыя | Сахария |
| Сітара | Ситара |
| Стэла | Стелла |
| Султана | Султана |
| Султанія | Султания |
| Сусанна | Сусанна |
| Суфія | Суфия |
| Сюмбель | Сюмбель |
| Т | |
| Табіба | Табиба |
| Тагіра | Тагира |
| Тазігуль | Тазигуль |
| Тазіра | Тазира |
| Таіра | Таира |
| Такліма | Таклима |
| Такія | Такия |
| Такміля | Такмиля |
| Такрыма | Такрима |
| Таліба | Талиба |
| Талія | Талия |
| Тамара | Тамара |
| Танвіра | Танвира |
| Танзіля | Танзиля |
| Тасліма | Таслима |
| Таслія | Таслия |
| Таўфія | Тауфия |
| Тахіра | Тахира |
| Тахія | Тахия |
| Туйбіка | Туйбика |
| У | |
| Ука | Ука |
| Укабіка | Укабика |
| Ульмес | Ульмес |
| Умгульсум | Уммгульсум |
| Умія | Уммия |
| Унса | Унса |
| Уразбіка | Уразбика |
| Уразгуль | Уразгуль |
| Уралія | Уралия |
| Уранія | Урания |
| Уркія | Уркия |
| Урфія | Урфия |
| Ф | |
| Фавіда | Фавида |

| На беларускай мове | На рускай мове |
|---|---|
| Фаіза | Фаиза |
| Фаіна | Фаина |
| Файзія | Файзия |
| Файруза | Файруза |
| Файрузджамал | Файрузджамал |
| Фандамія | Фандамия |
| Фандарыя | Фандария |
| Фанія | Фания |
| Фардангуль | Фардангуль |
| Фарыда | Фарида |
| Фарыя | Фария |
| Фархана | Фархана |
| Фархікамал | Фархикамал |
| Фатлія | Фатлия |
| Фаціма | Фатима |
| Фаціна | Фатина |
| Феліцыяна | Фелициана |
| Фіданія | Фидания |
| Фідая | Фидая |
| Фіза | Физа |
| Філарыя | Филария |
| Фіранія | Фирания |
| Фірая | Фирая |
| Фірдана | Фирдана |
| Фірзіна | Фирзина |
| Фіруза | Фируза |
| Фліда | Флида |
| Фруза | Фруза |
| Фуруза | Фуруза |
| Фруза | Фруза |
| Х | |
| Хабіба | Хабиба |
| Хава | Хава |
| Хавія | Хавия |
| Хаджар | Хаджар |
| Хадзіча | Хадича |
| Хазарыя | Хазария |
| Хазіна | Хазина |
| Хакіма | Хакима |
| Халіда | Халида |
| Халіля | Халиля |
| Халіма | Халима |
| Халіфа | Халифа |
| Хамиля | Хаміля |
| Ханіфа | Ханифа |
| Харыса | Хариса |

| На беларускай мове | На рускай мове |
|---|---|
| Хасана | Хасана |
| Хасанія | Хасания |
| Хафза | Хафза |
| Хафіза | Хафиза |
| Хаціма | Хатима |
| Хурбану | Хурбану |
| Хуршыда | Хуршида |
| Хусніджамал | Хусниджамл |
| Хуснікамал | Хусникамл |
| Хуснінур | Хуснинур |
| Хуснія | Хусния |
| Ц | |
| Цімербіка | Тимербика |
| Цюльпан | Тюльпан |
| Ч | |
| Чачка | Чачка |
| Чачкабану | Чачкабану |
| Чачкагуль | Чачкагуль |
| Чачканур | Чачканур |
| Чулпан | Чулпан |
| Чулпанія | Чулпания |
| Чыя | Чия |
| Ш | |
| Шагіда | Шагида |
| Шагіра | Шагира |
| Шадзіда | Шадида |
| Шаіра | Шаира |
| Шайха | Шайха |
| Шайхія | Шайхия |
| Шакіра | Шакира |
| Шаміля | Шамиля |
| Шамсегалія | Шамсегалия |
| Шамсегуль | Шамсегуль |
| Шамсіназ | Шамсиназ |
| Шамсія | Шамсия |
| Шамсульбанат | Шамсульбанат |
| Шаргікамал | Шаргикамал |
| Шаргія | Шаргия |
| Шарыфа | Шарифа |
| Шафа | Шафа |
| Шафіка | Шафика |
| Шафія | Шафия |
| Шахіда | Шахида |
| Шахіна | Шахина |
| Шахінур | Шахинур |

| На беларускай мове | На рускай мове |
|---|---|
| Шахія | Шахия |
| Шахрыджамал | Шахриджамал |
| Шухрат | Шухрат |
| Шыфа | Шифа |
| Шыфабану | Шифабану |
| Шыфабіка | Шифабика |
| Э | |
| Эва | Эва |
| Эльвіра | Эльвира |
| Эльжбета | Эльжбета |
| Эльмара | Эльмара |
| Эльміра | Эльмира |
| Эльфіра | Эльфира |
| Эма | Эмма |
| Эмілія | Эмилия |
| Энджыя | Энджия |
| Энджэ | Эндже |
| Энджэбанат | Энджебанат |
| Энджэбану | Энджебану |
| Энджэбіка | Энджебика |
| Энджэгуль | Энджегуль |
| Энджэкамал | Энджекамал |
| Энджэнур | Энджену р |
| Эсфіра | Эсфира |
| Ю | |
| Юзбіка | Юзбика |
| Юзем | Юзем |
| Юлія | Юлия |
| Юлыбанат | Юллыбанат |
| Юлыбану | Юллыбану |
| Юлыбіка | Юллыбика |
| Юльгіза | Юльгиза |
| Я | |
| Язгуль | Язгуль |
| Язіда | Язида |
| Язіля | Язиля |
| Язіра | Язира |
| Ямал | Ямал |
| Яміля | Ямиля |
| Яміна | Ямина |
| Янія | Яния |
| Ясіна | Ясина |
| Ясіра | Ясира |
| Ясміла | Ясмила |
| Ясміна | Ясмина |
| Ясмінур | Ясминур |

# ПАЭТЫЧНАЯ СТАРОНКА

## БУДЗЬМА!

Нас суседзі пасварыць хацелі,
Толькі мы
Праз доўгія вякі
Ня счужыніліся, ня ўлюцелі
І як землякі, як сваякі.

Нашы лемяшы
І нашы шаблі
Заадно сараліся здаўна.
Разам мы і пекleліся й зяблі,
Чашу горкую пілі да дна.

Нас вучылі вы, як верыць трэба
У сваё,
Як мову берагчы.
Мы на сіта згоды —
Сьведкай неба —
Напіналі разам абручы.

І прасейвалі на гэтым сіце
Пыцель на вясёлы каравай.
Сонейка ўсьміхалася ў блакіце,
З вышынёю заручала край.
Стане нам Гасподняй ласкі й кары,
Пешчаў лета, гурбішчаў зімы.
Будзьце доўга,
Наскія татары.
Будзеце —
І з вамі будзем мы!

**Рыгор БАРАДУЛІН.**



**I**

## З'ЯВА Ў ТВАЁЙ ДУШЫ (АНЁЛ)

Бы сняжынкі, бы кроплі, бы градзіны,
Падаюць з неба
Анёлы.

***

Свайго анёла фота,
Хто ўбачыць, прагне,
Хай зводзіць сам сябе ў фатаграфію.
***
Анёлу цяжка пасярод людзей,
Бо чалавек – нібы змяшальнік –
Змяшаць яго з нячысцікам імкнецца.
***
Як холадна ў душах чалавекаў...
Ці не таму і месца там
Сабе анёлы не знаходзяць?
***
Між распоеных і раскормленых
Анёлы не маюць
Прытулку.
***
Анёлы-захрыбетнікі
Злятаюць з вуснаў
Філарэта.
***
Анёл царкоўны – пад спадніцай
У таварыша...
Папа.
***
Як цяжка анёлу каля мяне,
Бо д'ябл сядзіць
І ўва мне.
***
І той ад сябе адганяе анёла,
Хто бэсціць
Суседа свайго.
***
І што анёлы робяць
Між людзей?
Вядома, гінуць.
***
Усё ж чалавек
Жвавейшы за анёлаў...
Ад іх заўжды ён уцякае.
***
Анёлы і находзяць, і зыходзяць,
А мы ўсё тымі ж
Застаемся.
***
Тут думаюць вось так:
Даляр надзейней
Крыл анёльскіх.
***

Анёлаў сёння – анідзе...
Даўно на д'яблаву карысць
Іх скарыстала чалавецтва.

***

Трымціць на ветры наш штандар,
А разам з ім
Зубамі клацае анёл.

***

Анёлы нашы
Мала чым адрозныя
Ад нас.

***

І сярод анёлаў
Безліч
Разнастайных боўдзіл.

***

У межах свінства –
І свае
Анёлы.

***

Анёл суседа зробіць так,
Што застанешся без надзённага ты
Хлеба.

***

Гляджу я на вас, "госпада":
Вашы анёлы –
Падеобнікі д'ябловы.

***

Што прышч на нос –
Што люду нашаму
Анёл.

***

Здаецца часам,
У разведку д'ябал
Анёлаў ціхіх пасылае.

***

Пайшоў анёл у свет –
Аб'еўся светам –
І ў д'ябла сам ператварыўся.

***

Калі зашмат збіраецца анёлаў,
Дык д'яблавыя штучкі
Пачынаюцца.

***

Так многа пылу, дыму на зямлі,
Што не відаць анёлаў
Анідзе.

***

На нашых цярністых шляхах
Паслізнецца любы
Анёл.
***
Над зямлёй не лунаюць анёлы,
А цяжка па ёй ідуць,
Прыжаўшы зламаныя крылы.
***
У сапраўдных анёлаў
Не крылы,
А кайданы.
***
Пяшчотныя анёлы — бы алені,
Ды момант тут такі:
Страляем мы ў аленяў.
***
Трапляе пад скабленне чалавек —
І тут жа ў ім
Анёлы праступаюць.
***
Твае ўчынкі — то пасеў...
Усходы ж —
То анёлы.
***
Анёл —
То з'ява
У тваёй душы.
***
Яшчэ на свет не з'явіцца душа,
А ўжо ідзе адстрэл
Яе анёлаў.
***
І ўсё ж ад нас залежыць,
Што нашыя анёлы
Звычайнай поўсцю пакрываюцца.
***
Ні моцным, ні ціхім святлом
Анёла не свецяць вочы...
Звычайна яны заплюшчаны.
***
Анёл, вядома,— тэарэтык,
Ты ж, чалавеча,
Добры практык будзь.
***
Калі душа твая — бы кветка,
То бы пчала,
Анёл імкнецца да яе.
***

Датуль анёлы далятаюць,
Дакуль людское сэрца
Дасягае.

***

Бывае час – анёл іскрыцца –
Нібы шампанскае
Віно.

***

Не будзе ваша сэрца
Зліткам залатым –
Не з'явяцца анёлы ў свеце гэтым.

***

Заўжды анёлы ходзяць пешшу...
А крылы?
Яны спатрэбяцца, каб уцякаць адсюль.

***

Анёл тады анёл,
Калі яшчэ ён знойдзе сілы
Ад света гэтага ўзняцца.

***

Адчыні толькі вокны ў іншы свет,
І першымі адсюль
Анёлы знікнуць.

**Яўген Гучок**

**II**

## СКУПШЧЫК НАШЫХ ДУШ (Д'ЯБАЛ)

Пачынаецца д'ябальшчына
З прыгожых і мілых
Нявіннасцей.

***

Нібы для мухі мёд,
Салодкі д'ябл
Для чалавека.

***

А д'ябл – ні больш-ні менш,
Як проста скупшчык
Нашых душ.

***

Надзейны схоў для д'ябла –
Сэрца
Чалавека.

***

Так, і ў д'ябла ёсць флюгарка,
А флюгарка тая –
Чалавек.

Так, ён без рук,
Так, ён без ног,
А як трывала ён на нас усеўся.
***
Нібы вярблюд,
Падставіць д'ябал горб,
А ты сядай і едзь сабе, і едзь.
***
І ў галёшу д'ябал ператворыцца,
Абы ў ёй сядзелі
Мы з табой.
***
Усё, што ёсць у д'ябла,
Ты можаш атрымаць
За так.
***
Яшчэ нам весела й таму,
Што пад рабрыну
Д'ябал нас шчыкоча.
***
З рукамі, што гатовы да абдымак,
Заўсёды сярод нас
Гуляе д'ябал.
***
Калі ласкавы д'ябал,
Нібы коцік,
Тваю душу ён хлепча, быццам малако.
***
Не быць такому аніколі,
Каб д'яблу не пашэнціла
Сярод людзей.
***
Ды што там заляжацца,
Прылегчы нават
Людзі д'яблу не даюць.
***
Не ўсякі д'ябал на сабе,
Як мы на ім
Любілі пазалоту.
***
Правадыром у д'ябла
Часцей за ўсё бывае
Чалавек.
***
Не сустракаў яшчэ я тых,
Хто б пальцам бы не хацеў,
Крануць прапелер д'ябла.
***

Ніякі д'ябл у суп табе не плюне,
Ён толькі падштурхне,
Каб сам ты здзейсніў гэта.

***

Не д'ябал штосьці нам,
А мы адзін аднаму
Яго бясконца насаджаем.

***

Усе нашы шыльды і рэкламы –
То шыльды і рэклама
Д'ябла.

***

Хітруем мы,
А д'ябал проста робіць
Сваю справу.

***

Заўжды аднекваецца д'ябал,
А сам здзейсняе
Адваротнае.

***

Хто не гультай,
Дык гэта д'ябал
У справах д'яблаўскіх сваіх

***

Сумленне д'ябла – чыстае
Ніколі ён не здраджвае
Сабе.

***

Паражняком не ходзіць д'ябал...
У яго й за пазухай
Народ.

***

І колькасна, і якасна
Сабою Землю д'ябал
Акупіруе.

***

І губамі тваімі шлёпае
Не іншы хто,
А менавіта д'ябал сам.

***

Адным путам звязаны,
Адным брудам склееныя
Д'ябал і мае начальнікі.

***

Не будзем забываць,
Што наш асімілятар
Даўным даўно сам з д'яблам зліўся.

***

І што б ні запакоўваў я,
І што б ні распакоўваў,
Усюды д'ябал прыхаваны.

***

Калі сустрэнецца пад нумарам анёл,
Сакрэт тут просты:
Ён – маёмасць д'ябла.

***

Як часта цыцку д'ябла
Ссе
Анёл.

***

Мы ад анёла ўцякаем
І гонімся
за д'яблам.

***

Як д'яблу ты не дагаджай,
Не стане ён анёлам
Для цябе.

***

З д'яблам анёл не сябруе,
Калі ж і сябруе,
То гэта анёл-чалавек.

***

Як Бог – вялікае маўчанне,
То д'ябал – найбольшае
Ёсць лапатанне.

***

Мы не адны ў гэтым свеце...
Тут з намі д'ябал,
А між намі Бог.

***

Чым вышай д'ябал узлятае,
Тым больш асоўваецца
Чалавецтва.

***

А д'ябал дыша ў нас унутры...
І вочы нашы запацелі,
І мы не бачым Божы свет.

***

Так, д'ябал – той дружбан,
З якім пара канчаць
Мне сябраваць.

***

Калі за д'яблам добра прыглядзець,
Дык ён – надзвычай
Паслухмяны хлопец.

***

Палонны д'ябла
І надалей хоча быць
У палоне.

***

А д'ябал пераможаны –
Яшчэ не ёсць
Анёл.

***

Калі вельмі пастарацца,
Расстацца можна й
З д'яблам.

***

Дай, Божа, моцы мне,
Каб мог я з д'яблам
Разыйсціся.

**Яўген Гучок**

# ЮБІЛЕЙНЫЯ "ПТУШКІ ГАДОЎ" ВУЧОНАГА-АДРАДЖЭНЦА

**(Ібрагіму Барысавічу Канапацкаму – 50)**

**Вось лятуць над намі**
**Сінія птушкі ветру,**
**Чырвоныя птушкі лістоты,**
**Шэрыя птушкі хмар,**
**Барвовыя птушкі гадоў.**
**Максім Танк. "Птушкі".**

Ібрагім Барысавіч КАНАПАЦКІ нарадзіўся у апошні дзень лютага 1949 года.

Калі сцюжа ўмацоўвае поле,
Вецер ледзянымі падковамі яго
ўтрамбоўвае,
Ноч пасыпае колкімі зорамі і цішынёй –
Ідуць плугі на адпачынак.

Гэта адбылося 28 у першы дзень нядзелі – панядзелак. Па ўсходняму календару гэта быў год Быка. Калі ўчытацца ў астралагічныя выданні і зрабіць па ім нейкія высновы і прадвызначэнні, дык яны настолькі супрацьлеглыя, як наша жыццё, і з-за прагнозага непралазнага гушчару сапраўды выбірацца цяжка, а калі чалавек выйдзе з яго, дык ён, несумненна, даб'ецца незвычайных поспехаў у жыцці, у грамадскай, навуковай ды іншых сферах дзейнасці. Так здарылася і з гэтым нараджэнцам гарадскога пасёлка Смілавічы Чэрвеньскага раёна Мінскай вобласці.

Дай мне, ранак, свае песні,
Перазвоны жаўруковы,
Калі я іду дарогай
Праз палі, лугі, дубровы.

Пасля школы Ібрагім Барысавіч скончыў у 1970 годзе Мінскі педагагічны інстытут імя Максіма ГОРКАГА, які зусім нядаўна памяняў прозвішча аднаго класіка на іншага і стаў Беларускім дзяржаўным педагагічным універсітэтам імя Максіма ТАНКА.

У мяне спыталі:
– У якой імперыі
Не заходзіла сонца?
Я адказаў: – Толькі ў адной –
У імперыі паэзіі...

І праваліў экзамен
Па гісторыі.

У школе хлопчык любіў мову, літаратуру... Гісторыкам стаў неспадзявана для сябе, сваю навуку палюбіў, як родную маці, і сваю вышэйшую навучальную ўстанову закончыў у ліку лепшых, а па гістарычным дысцыплінам меў толькі адзнакі "выдатна".

Па накіраванню КАНАПАЦКІ працаваў настаўнікам на Бярэзіншчыне і не парываў сувязяў з сваёй "альма-матэр", якая, як добрая і прадбачлівая маці, атуляла яго сваёй прыязнасцю, а потым зноў далучыла да сваіх навуковых сценаў, з 1975 году ён асістэнт, старшы выкладчык, дацэнт. У 1978 годзе Ібрагім Барысавіч стаў кандыдатам гістарычных навук, 4-ы том "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" адзначае яго на сваіх старонках як беларускага гісторыка.

Я спытаў чалавека,
Які прайшоў праз агонь,
І воды,
І медныя трубы:
– Што самае цяжкае
У гэтым свеце?
І ён адказаў:
– Прайсці праз вернасць.

Калісьці "неіставы" Вісарыён БЯЛІНСКІ адзначыў: **"Відовішча жыцця вялікага чалавека – заўсёды цудоўнае відовішча: яно ўзвышае душу... узбуджае дзейнасць",** думаю над гэтымі словамі і ўяўляю перад сабой незвычайна ўзнёслую працу і цудадзейныя набыткі для навукі, для культуры, для беларускага народа, для беларускіх татараў, якія пастаянна аддае ад свайго працалюбства, энергіі, ад свайго таленту гэты бліскучы, самабытны, бескампрамісны ў пошуках праўды, вучоны-адраджэнец Ібрагім Барысавіч КАНАПАЦКІ.

Спрадвеку
Абследуем галактыкі.
А пакуль што нідзе,

Апроч Зямлі,
Не знайшлі слядоў
Жыцця.

Гэта ні для каго сакрэт, што Ібрагім Барысавіч – прадстаўнік аднаго з маленькіх народаў нашай Беларусі і належыць да старажытнага беларуска-татарскага роду КАНАПАЦКІХ. Так сталася, што з свайго родавага гнязда ён з'яўляецца адным з першых гісторыкаў-вучоных. І як адзін з плённых і руплівых яго сыноў, ён добра ўслаўляе і ўхваляе і сваіх продкаў, і нашчадкаў.

Адны гавораць,
Што мы – зямляне.
Не веруем,
Бо адкуль бы ў мае сны
Залятали зоры?

Другія гавораць,
Што мы –
Прышэльцы з сусвету.
Не веру і ім,
Бо не была б
Мне так дарага
Маці-зямля.

У свой час у газетах "Культура", "Літаратура і мастацтва", "Во славу Родины", "Голас Радзімы", часопісе "Беларуская думка" ды іншых выйшлі мае артыкулы і нарысы пра цыганаў, жыдоў, беларускіх татараў, найбольш пра апошніх, пра іх гісторыю з'яўлення на Беларусі, культуру, літаратуру, мастацтва, звычаі, веру... Вось тады ў полі майго зроку і з'явілася прозвішча Ібрагіма Барысавіча КАНАПАЦКАГА, які мне здаўся *(а гэта так!)* вялікім і добрым знаўцам свайго народа. І як аказалася, я не памыліўся. Спачатку па перапісцы мяне пазнаёміў з ім выдатны беларускі энцыклапедыст Якуб *(Якаў)* Адамавіч ЯКУБОЎСКІ, ён жа лаўрэат Дзярж-прэміі БССР, а потым у мяне адбылося і асабістае знаёмства з Ібрагімам Барысавічам у маіх Баранавічах, тады я ладзіў вечарыну для мясцовых беларускіх татар. Ад таго дня засталіся ў мяне непаўторныя ўражанні, гэтыя словы госця:

**"Нас, татараў, на Беларусі маленькая жменька – крыху больш за 12 тысяч чалавек, што складае 0,1% ад усяго насельніцтва Рэспублікі Беларусь, але жывём тут ужо даўно, амаль 600 гадоў. А жывецца нам тут добра, бо ў нас многа сяброў і амаль няма ворагаў, а калі ёсць, то гэта ворагі Беларусі, а з беларусамі нас амаль 10 мільёнаў".**
і яшчэ яго дзівосны падарунак – кніга "Беларускія татары: мінулае і сучаснасць" *(Мінск, "Полымя", 1993)*, якую ён напісаў разам з вучоным з Масквы Станіславам Уладзіміравічам ДУМІНЫМ. На выданні – вязь чароўных арабскіх літар і словы

**"У імя Аллага Міласцівага, Міласэрнага!**

**Мір Вам, міласць Аллага Усявышняга і Яго бласлаўленне, дарагі наш сябар і брат Міхась. Шчыры дзякуй Вам за Вашу руплівую і самааддадзеную працу, за Вашы цікавыя і змястоўныя артыкулы, прысвечаныя беларускім татарам. Спадзяёмся, што мы будзем і надалей (арабскія літары. – М.М.)(Калі Бог дасць) працаваць на карысць нашае Бацькаўшчыны – Беларусі.**

**З павагаю да Вас Ібрагім Канапацкі.**
**27.09. 1994 г."**

А да гэтай цікавай і павучальнай па сваяму зместу, па філасофскім роздумам кнізе ў Ібрагіма Барысавіча ў 1980 годзе выйшла праца ў Менску, "По законам братства: Участие трудящихся Белоруссии в освоении целинных земель Казахстана".

Кожны з нас –
Звяно ў ланцугу пакаленняў,
Якія нам перадаюць
Сваю радасць і боль,
Думы і запаветы.

І таму кожны з нас
Не адно жыццё
У сэрцы змяшчае.

Мяне ўсё ўражвае ў Ібрагіме Барысавічы, але найбольш энергія яго і ўменне накіраваць яе ў патрэбнае рэчышча, якое найбольш карысна для агульнай справы. Сёння ён дактарант кафедры гісторыі, працуе на паўстаўкі дацэнта гэтай кафедры, член-карэспандэнт Акадэміі па вывучэнню нацыянальных меншасцей, член вучонага Савета гістфака. А вось яго і грамадскія пасады: старшыня мусульманскай абшчыны г. Мінска, намеснік старшыні Мусульманскага рэлігійнага аб'яднання ў Рэспубліцы Беларусь, член Савета Беларускага згуртавання татараў-мусульман "Аль-Кітаб", выконваючы абавязкі галоўнага рэдактара квартальніка "Байрам. Татары на зямлі Беларусі". Акрамя таго, уваходзіць у склад дабраахвотнага аб'яднання грамадзянаў "Група Абароны Правоў Мяньшыняў – Беларусь". Няхай, калі ласка, даруе мяне юбіляр, калі я нешта і не назваў.

Мне ўдалося пабываць у Белдзяржпедуніверсітэце і бачыць, як калегі па працы, студэнты з павагай і любоўю адносіліся да яго, знаходзячыся ў гэтай прыязнай атмасферы, як мне памяць не змяняе, па звароту ў той жа вечар у сваіх Баранавічах нават напісаў два матэрыялы. Гэта так, агонь запаляецца ад агня, дабрыня ідзе ад душы і сэрца, а творчасць і яе здабыткі ад суладдзя добрых, прыхільных і прыязных людзей, асабліва такіх, якім з'яўляецца, з'яўляўся і далей будзе І.Б. КАНАПАЦКІ.

На шчаслівым месцы
Стаіць наша хата:
Пяць дарог разыходзіцца
Ад яе парога,
Пяць дарог зыходзіцца
Каля яе ганка.

Зусім нядаўна ў мяне быў сябра з Расіі, тады яму паказаў працы двух Міжнародных практычных канферэнцый па тэматыцы беларускіх татараў *(а на падыходзе ўжо тамы трэцяй канферэнцыі. – **М.М.**)*, кнігу з матэрыяламі, прысвечанымі 75-м угодкам Сцяпана Хусейнавіча АЛЕКСАНДРОВІЧА, газеты "Жизнь" і гонар беларускіх татар за ўсю сваю 600-гадовую гісторыю – часопісы "Байрам", дык я яму адразу сказаў, што ўсё гэта разам з сваімі паплечнікамі зрабіў І.Б. КАНАПАЦКІ. Канешне, госць быў здзіўлены, але ўрэшце не тым, што такія мерапрыемствы былі ўсё ж праведзены, канешне, за ўсім гэтым стаіць вялікая і пакутная праца, але ён быў найбольш уражаны, што ад іх застаўся такі важкі і вялікі след – як сучасны летапіс гістарычнай, філасофскай, культурнай, краязнаўчай, літаратурнай, этнаграфічнай і іншых думак найбольш актыўнай часткі яго народа і шматлікіх лепшых творцаў ад беларусаў ды іншых саюзнікаў і разумных галоў. Паглядзеў мой сябра і іншыя выданні, у якіх прымаў удзел гэты ўдумлівы вучоны-творца, які стварае і распаўсюджвае дзівосны і каларытны свет свайго любага, адметнага і самабытнага народа, які сваім прыкладам для ўсіх служыць надзейным арыенцірам любові ў працы для сваёй краіны.

Я гэта люблю падарожжа,
З якім і зраўняцца не можа
Вандроўка ў любыя Таўрыды –
У казачныя краявіды

На Беларусі добра вядома Згуртаванне татараў мусульман "Аль-Кітаб", і тутака Ібрагім Барысавіч мае свае добрыя здабыткі, бо і ў яго нараджэнні і сучаснай працы такіх відных людзей, як Абу-Бекір ШАБАНОВІЧ, Ісмаіл АЛЕКСАНДРОВІЧ, Ісмаіл МЕМЕТАЎ, Ісмаіл ВАРАНОВІЧ, Якуб ЯКУБОЎСКІ ды іншых энтузіястаў, адчуваюцца не толькі яго намеры, а і актыўная і плённая работа на карысць сваіх суплямennікаў, а найбольш, канешне, на радасць сваёй Бацькаўшчыне.

У газеце "Культура", № 21, 97, з'явіўся матэрыял пад інтрыгуючай назвай "Караван-Байрам", гэта была гутарка Зміцера ВОЛКАВА з І.Б. КАНАПАЦКІМ. Тады я адразу зрабіў выразку з яе, бо, як аказалася, беларускія татары мелі толькі два сваіх буйных нацыянальных святы – гэта "Рамазан-Байрам" і "Курбан-Байрам". Дык вось, цэнтр нацыянальных культур вынайшоў трэцяе – "Караван-Байрам", як аказалася, такога дасюль не мае ніводны другі мусульманскі народ. Канешне, "генератарам" гэтага мерапрыемства быў КАНАПАЦКІ. Як ён тады адзначаў: "**... гэтым святам мы мяркуем узняць нацыянальны дух татарскага народа, паказаць, што мы на гэтай зямлі не госці, а карэнныя жыхары. Па вызначэнні ЮНЕСКО, той народ, які жыве на зямлі больш 500 гадоў, з'яўляецца карэнным, а мы ўжо жывём на Беларусі 600 гадоў. Унікальная з'ява гісторыі**". Так, унікальная з'ява! *(Тых, хто больш хоча дазнацца пра гэтае адзінае вандроўнае свята ў свеце, накіроўваю да апавядання Разаліі Александровіч "Караван-Байрам на Беларусі" № 3 – 97. ВАНМ. – **М.М.**)*.

І ўнікальнасць яе ў тым, што ў краіне-браначцы беларускія татары з'яўляюцца лепшай часткай яе, бо гэта найбольш цвярозыя людзі ў ёй, бо ніколі не здраджалі сваёй зямельцы, заўсёды працавалі на карысць сябе і краіне, мужна абаранялі яе ад ворагаў і ўносілі ў спадчыну яе свае важкія і каштоўныя ўнёскі. Сярод гэтага народа — працалюбівага, вернага, самаадданнага і добра гледзячага ў сваю будучыню — сваімі добрымі і відавочнымі здабыткамі ярка глядзіцца, вылучаецца і вызначаецца вучоны, педагог, публіцыст, грамадскі і рэлігійны дзеяч Ібрагім Барысавіч КАНАПАЦКІ, якому ў другім месяцы 1999 года спаўняецца 50 гадоў! Канешне, паўстагоддзя — гэта зікатлівая веха ў жыцці кожнага чалавека, а найбольш, Творцы!

Калі сваё пяро
Я зазямляю
У розных асабістых
Справах і клапотах
І пачынаюць, быццам
Па грамаатводу,
Бліскавіцы слоў...

то мне з берагоў ракі Мышанкі, з слаўнага горада чыгуначнікаў вельмі карціць павіншаваць гістарычны факультэт, увесь Белдзяржпедуніверсітэт імя Максіма ТАНКА, Беларускае згуртаванне татараў-мусульман "Аль-Кітаб", Мусульманскае рэлігійнае аб'яднанне ў Рэспубліцы Беларусь, рэдакцыйныя калектывы часопіса "Байрам" і газеты "Жизнь", увесь род КАНАПАЦКІХ, яго сяброў, знаёмых, прыяцелей і дарагіх акружаючых яго жанчын з такім Творцам!

Напярэдадні юбілея Ібрагіма Барысавіча я звярнуўся да яго з некаторымі сваімі пытаннямі, калі ласка, пачуйце, як б'ецца жывое сэрца вучонага, чым жыве і дыхае.

*М.М.:* **"Калі да Вас прыйшла цяга да гісторыі? Хто на гэта Вас найбольш узрушыў?"**

І.Б.: **"Цікавасць да гісторыі ў мяне была з маленства. Хаця, скажу па-праўдзе, мне ўжо тады былі нецікавыя школьныя падручнікі па гісторыі. А вось гісторыя свайго краю, свайго народа – гэта было ў крыві. Я любіў слухаць расказы бабуляў (дзядоў я не застаў), бацькі пра нашу татарскую мінуўшчыну, пра свайго прадзеда Ібрагіма Хасеневіча, які ў пачатку века быў імамам Смілавіцкай мячэці, існаваўшай з 1856 г. Была ў мяне цяга і да нашых старых кніг, якія пачаў, на жаль, чытаць толькі з 40-гадовага ўзросту".**

*М.М.:* **"Хто з гісторыкаў меў на Вас найбольшы моц і ўплыў? У чым гэта выяўлялася?"**

І.Б.: **"Не скажу, што гэта былі школьныя настаўнікі. У школе я больш захапляўся мовамі і літаратурай. Кажуць, што пісаў някепскія сачыненні. Але паступіў з першага разу на гісторыка-геаграфічны факультэт Мінскага педінстытута імя А.М.Горкага ў 1966 годзе. І сёння не ведаю, чаму так атрымалася. Гэта ўжо пазней, калі я апынуўся ў вузаўскай аўдыторыі, калі пачаліся заняткі, я захапіўся цалкам гэтай навукай. Вучыўся нядрэнна. Скончыў інстытут з "чырвоным" дыпломам. Вельмі**

любіў лекцыі прафесараў А.П'янкова (руская гісторыя), В.Фаміна (гісторыя Беларусі), В.Гарамыкінай (старажытная гісторыя), М.Гнеўкі (методыка выкладання гісторыі), а таксама Мікалай Рыгоравіч Гнеўка чытаў курс гісторыі Беларусі з старажытных часоў да 1861 г. Выдатна чытаў лекцыі і прафесар Л.Шнэерсон па новай гісторыі. Цяжка сказаць, хто з іх больш паўплываў на мяне. Пасля заканчэння інстытута я паехаў па размеркаванню в Бярэзінскі раён Мінскай вобласці працаваць настаўнікам гісторыі і грамадазнаўства Каменнаборскай сярэдняй школы. Працаваў амаль тры гады. Затым была аспірантура, праца над кандыдацкай дысертацыяй "Удзел працоўных Беларусі ў асваенні цалінных і абложных зямель Казахстана" (абараніў у 1978 г.)".

М.М.: "Калі і на якую тэму было Вашае першае выступленне ў друку?"

І.Б.: "Першае выступленне ў друку было ў 1974 г. У сакавіку гэтага года была надрукавана мая публікацыя "Здравствуй, земля целинная!" Яна была напісана пад уплывам маіх падарожжаў па бяскрайнім цалінным прасторам. Яна была змешчана ў часопісе "Политинформатор и агитатор". А пасля былі і іншыя публікацыі. Усяго за гэты час іх назбіралася больш за 200. З 1989 г. я стала пачаў займацца гісторыяй беларускіх татар. Разам з С.Думіным напісалі вам вядомую навукова-папулярную кніжку".

М.М.: "Першае Вашае прыдбанне гістарычнай літаратуры, або падарунак на гэтую тэму? Назва кнігі і яе аўтар?"

І.Б.: "Кнігі я пачаў збіраць у студэнцкія гады. Тады яны былі не вельмі дарагія. І назбіралася даволі прэстыжная бібліятэка".

М.М.: "Куды і дзе прайшлі Вашыя падарожныя шляхі?"

І.Б.: "Быў на цаліне на рабоце, у Крыме некалькі разоў як дэпутат Меджліса крымскататарскага народа (1993-1994 гг.) і таксама адпачываў на курортах. Быў у Балгарыі, тагачаснай ГДР у сяброў. Два разы ў Турцыі (на навуковых канферэнцыях, апошні раз у маі 1998 г.), два разы у Лівіі, шмат разоў у Польшчы, Літве, Маскве. Шмат вандрую па роднай Беларусі, часта бываю ў сваіх татар у абшчынах. Але больш за ўсё на сваёй радзіме ў г.п. Смілавічы Чэрвеньскага раёна Мінскай вобласці. Наведваю сваю маці – Соф'ю Мустафаўну і ўсю радню, праводжу часта пятнічныя сходы мусульман у адбудаванай у 1996 г. мячэці".

М.М.: "З кім з вучоных свету Вы маеце найбольшыя сувязі і перапіску!"

І.Б.: "Маю сувязі з польскімі даследчыкамі татарскай гісторыі і пісьменнасці – прафесарам Янам Тышкевічам, Чэславам Лапічам, Аджэем Droздам, літоўскімі даследчыцамі – Тамарай Байрашаўскайтэ і Галінай Александровіч-Мішкінене, якія плённа працуюць на ніве нашай татаршчызны. Лістуюся з С.Думіным, маім сябрам і сааўтарам. Маю кантакты з выдатнымі дзеячамі беларускай эміграцыі ў Амерыцы, спадарамі В.Кіпелем (яго жонкай З.Кіпель), Я.Запруднікам, М.Белямуком, якія дапамагаюць і словам, і грашыма ў выданні "Байрама". Маю шмат сяброў у Беларусі – пісьменнікаў, вучоных, простых людзей. Дзякуючы ім, пачуваю сябе як чалавек".

Вось мы крышачку і прайшлі па юбілейным сцежкам, "птушкам гадоў" вучонага-адраджэнца. І, канешне, у гэтыя і ў будучыя плённыя гады мы ўсе гаворым: "Жывіце слаўна, багата і будзьце

заўсёды здаровы, дарагі і вельмі шаноўны Ібрагім Барысавіч, каб сваімі навуковымі набыткамі і ўзнеслай педагагічнай дзейнасцю яшчэ больш уквецілі, уславілі, узнеслі нашу маці – Радзіму – Беларусь!" *(У матэрыяле выкарыстана паэзія толькі Максіма Танка. – М.М.).*

**М.Маліноўскі.**



## ПОШТА КВАРТАЛЬНІКА

***Беларускае згуртаванне татараў-мусульман "Аль-Кітаб", Мусульманскае рэлігійнае аб'яднанне на Беларусі шчыра і сардэчна, з пачуццём вялікай павагі віншуюць з***

***70-годдзем***

***вельмі шаноўнага спадара ЛЕАНІДА МІХАЙЛАВІЧА ЛЫЧА***

Беларускія татары ганарацца знаёмствам з Вамі, Вашай пранікнёнай увагай да нашага нешматлікага народа. Ваша здольнасць вылучаць і спрыяць захаванню адметнага ў асобным чалавеку, згуртаваннях людзей, нацыянальных супольнасцяў вельмі цэніцца намі. Для беларускіх татараў Вы з'яўляецеся прыкладам адданага служэння Бацькаўшчыне, самаахвярнай дзейнасці на карысць свайго народа, нацыі ў цэлым.

Асобы, падобныя Вам, вызначаюць эпоху. У вялікай Краіне Беларусаў Вы займаеце сваё трывалае і незаменнае месца. Дзякуючы розуму, зайздроснай працаздольнасці, уменню вылучаць непадуладныя часу і кан'юнктуры каштоўнасці Вы здолелі стварыць Краіну Нашых Надзей. У гэтай краіне не вызначаюцца межы, у ёй не праводзіцца бяздушны перапіс насельніцтва, часовыя тут доўга не затрымліваюцца. А пасяліўшыеся ў ёй па перакананнях любяць сваю Беларусь, шануюць мову, назвы сваёй зямлі, яе слаўнае мінулае, накіроўваюць дзейнасць на захаванне здабытага і на дастойную будучыню. Няпросты лёс беларускай зямлі вымушае нас насіць гэтую краіну ў сваім сэрцы. Мы ўдзячныя лёсу, што ў сардэчных памкненнях ён паяднаў нас.

Пры ўсіх існуючых цяжкасцях побач з Вамі жыццё напаўняецца аптымізмам, святлом і любоўю. Жадаем Вам надоўга захаваць свае высакародныя якасці.

Здароўя Вам! Міласці Божай!
Са святам Вас! З Вашым Байрамам!

**Праўленне "Аль-Кітаба"**

**Муфціят.**



Духовное Управление мусульман Украины поздравляет Вас со священным месяцем Рамадан. Желаем, чтобы это замечательное время было использовано для укрепления веры благочестивыми деяниями и объединения всех сил для обустройства крепкого общества. Чтобы наши намерения и поступки были верны Шариату пророка Мухаммеда.

С уважением
Председатель Духовного
Управления мусульман Украины,
муфтий Украины, шейх
**Ахмед ТАМИМ.**



## УРАДАВАЯ ТЕЛЕГРАММА

Кемерово 715196/221 122 18/12 0602 =
Доставить Коласа 69 кв 41
Правительственная Минск Республика Беларусь Якуба Коласа 69

Духовное Управление мусульман Беларуси Муфтию Исмаилу АЛЕКСАНДРОВИЧУ

Уважаемый муфтий-хазрат!

Сердечно, от всей души поздравляю Вас, исламское духовенство и всех мусульман региона с наступлением священного месяца Рамадан и началом Уразы – большого поста.

Желаю Вам здоровья, счастья, благополучия.

Уверен, что деятельность Духовного Управления и мусульманских общин будет и впредь способствовать упрочению нравственных основ жизни российского общества, его консолидации, укреплению гражданского мира и согласия в регионах, духовному обновлению нашего отечества – великой России.

Да благословит Вас Всевышний в Ваших благих делах и даст Вам здоровья и силы на многие годы, чтобы следовать Его предначертаниям. Мир Вам и Вашему дому.

С глубоким уважением губернатор Кемеровской области
**А.М.ТУЛЕЕВ.**

НННН 0718 18.12 0001



Многоуважаемый Ибрагим Борисович!

Спасибо за внимание. Получил Ваш пакет с очень своевременной и так нужной сейчас информацией. Выполняю Вашу просьбу – высылаю фото.

Пользуясь случаем, поздравляю Вас и всех мусульман с наступлением священного месяца Рамадан. Желаю Вам здоровья, благополучия в семье, успехов в Вашей благородной деятельности.

С уважением **Давид Мурзич.**



Салям алейкум, дорогой наш уважаемый Ибрагим Борисович!

Поздравляем Вас и всех наших мусульман с наступающим постом Рамазан, желаем крепкого здоровья, трудиться на пользу нашего ислама. Я очень доволен, что Вы сообщили, что постройку мечети отдадите организации, нам туда трудно добираться. Высылаю фото. Будьте здоровы.

С уважением **Шагидевич А.А.**



Уважаемый Ибрагим Борисович!

Спасибо за поздравление в связи с наступлением месяца Рамадан. От себя и от имени прихожан поздравляю и Вас с этим знаменательным периодом года.

Высылаю фотокарточку на удостоверение.

Пусть Аллах оберегает Вас от всех бед и способствует всяческим успехам.

**М.Криницкий.**



Бисмилляхи ррахмани ррахим!
Ассаляму алейкум!

Уважаемый Исмаил Мустафович!

Община Слонима обращается к Вам с просьбой выслать в наш адрес книгу "Крепость мусульманина" для размножения и раздачи нашим мусульманам в другие общины для углубления знаний. Целостность и сохранность Вашего экземпляра гарантируем, да ещё сделаем Вам его в жёстком переплёте. Ещё просьба: нам стало известно, что Рафаил из Орши привёз обещанные ксероксы и факсы, убедительно просим по 1 экз. выделить для Слонимской мечети, чтобы могли более продуктивно выпускать разную литературу по

Исламу. Вырученные средства пойдут и уже идут на поддержание мечети. Мы сейчас каждый месяц должны платить за газ более чем по 5 миллионов бел. рублей.

Мы хотим за Рамазан месяц издать книгу "Крепость мусульманина".

Просим рассмотреть наши вопросы и не отказать в нашей просьбе.

С уважением: **Сулейман БАЙРАШЕВСКИЙ.**



## ПОЗДРАВЛЕНИЯ С КУРБАН-БАЙРАМОМ

### Правительственная телеграмма

Правительственная Минск Беларусь Якуба Коласа 69 ДУМ Исмаилу АЛЕКСАНДРОВИЧУ =

Уважаемый муфтий-хазрат!

От всей души с чувством искренней радости и волнения поздравляю Вас и всех мусульман региона с великим, благословенным и самым значимым мусульманским праздником Курбан-Байрам – праздником добра, милосердия и сострадания.

Желаю, чтобы этот замечательный праздник пришёл в каждый дом, в каждую семью, сделал её чуточку лучше, а всех нас добрее и милосерднее.

Верю в лучшее будущее нашего многонационального отечества – России, ради которого надо сообща в мире и согласии трудиться.

Доброго Вам здоровья, счастья и долголетия.

Мир Вашему дому и благословение Всевышнего!

С глубоким уважением и наилучшими пожеланиями губернатор Кемеровской области **А.М. ТУЛЕЕВ**



Телеграмма

Ярославль ЦОС Ч301 14 27/3 1443 =
Беларусь Минск 131 а/н 131 =

Поздравляем Курбан-Байрам [illegible]
Рустам-хазрат -
1516НННН 1Ч19 27.03 0015



Уважаемый Исмаил-эфенди!

Поздравляю Вас и всех мусульман Республики Беларусь с праздником Курбан-Байрам (Ид аль-Адха).

Желаю, чтобы это знаменательное время было использовано для укрепления веры благочестивыми деяниями и объединения всех сил для обустройства крепкого общества.

Пусть в дни праздника в наших душах откроются новые возможности для совершения богоугодных благочестивых дел.

Да поможет нам Всевышний Аллах обрести силу и терпение для избавления от неугодных Аллаху плохих поступков и мыслей.

Мир Вам, милость Аллаха Всевышнего и благословение Его!

С уважением:
Муфтий мусульман Крыма **М. Хаджи Нурий Эфенди**.

## ЗМЕСТ